...Прошлое Белорусского племени представляет для исследователя немало интереса. История его не блещет знаменитыми битвами, завоеваниями, у него не было полководцев, которым бы хронисты вложили в уста речи, но зато история его в высшей степени интересная в бытовом отношении... В изучении быта народа и заключается главный интерес истории, в этом отношении наша родина представляет непочатый край.

Остается только желать, чтобы в самом скором времени было исследовано прошлое и настоящее Белоруссии, чтобы современники, зная его, могли начать снова культурную работу в пользу своего племени, как это было и есть у других, раньше нас пробудившихся, славянских народностей...

**(М. Доўнар-Запольскі, 1888).**

# МІТРАФАН ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

## 1868—1934 гг.

Асоба
ў дакументах
і ўспамінах



Мінск
«Лімарыус»
2020

*Светлай памяці даследчыкаў,*
*якія стаялі ля вытокаў вяртання*
*імя Мітрафана Доўнар-Запольскага*
*ў беларускую культуру:*
*Арсеня Ліса,*
*Дзмітрыя Ліна,*
*Віталя Скалабана...*

## АД УКЛАДАЛЬНІКА

Асоба Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага (1868—1934) уражвае сваёй універсальнасцю, шматграннасцю і маштабамі дзейнасці. Навуковая спадчына даследчыка і сёння застаецца важнай складовай беларускай гістарыяграфіі, археаграфіі, архівазнаўства, этнаграфіі і фалькларыстыкі. Аднак значэнне яго дзейнасці не абмяжоўваецца выключна навуковымі даследаваннямі. Вялікую ролю М. Доўнар-Запольскі таксама адыграў у гуртаванні даследчыцкіх сіл дзеля вывучэння Беларусі і развіцця беларусазнаўства ў канцы XIX — пачатку XX ст., у абгрунтаванні самастойнага гістарычнага шляху беларускага народа і канцэпцыі яго нацыянальна-дзяржаўнага існавання.

Дзейнасць прафесара М. Доўнар-Запольскага пакінула яскравы след у развіцці навукі і сістэмы адукацыі ўсёй Усходняй Еўропы. У розныя часы ён з’яўляўся прыват-дацэнтам Маскоўскага, прафесарам Кіеўскага, Харкаўскага, Бакінскага, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэтаў і Ціміразеўскай акадэміі ў Маскве. Ён стаў заснавальнікам і кіраўніком навучальнай установы новага тыпу — Кіеўскага камерцыйнага інстытута (сёння — Кіеўскі нацыянальны эканамічны ўніверсітэт імя В. П. Гетмана). З яго іменем звязаны арганізацыя і дзейнасць Кіеўскага Археалагічнага і Кіеўскага Геаграфічнага інстытутаў, Таўрычаскага і Бакінскага ўніверсітэтаў, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

На фарміраванне асобы даследчыка, яго шматгранную і плённую самарэалізацыю істотна паўплываў характар эпохі. Другая палова XIX — першая трэць XX ст. — перыяд вялікіх трансфармацый і ўзрушэнняў. Ён уключыў у сябе спробы маштабных рэформ і контррэформы, войны і рэвалюцыі, развал імперый і працэсы нацыянальнага дзяржаваўтварэння, палітыку эканамічнай лібералізацыі і дзяржаўнага дыктату, маргіналізацыю адных і мабільнасць іншых сацыяльных груп, падзенне старых і нараджэнне новых эліт, узлёт і разбурэнне духоўных і палітычных ідэалаў.

У пэўным сэнсе ў лёсе Мітрафана Доўнар-Запольскага адлюстравалася індывідуальна-біяграфічнае аблічча самой эпохі. Яе выклікі сталі тым гістарычным кантэкстам, у якім выпрацоўваліся грамадзянскія, прафесійныя, экзістэнцыяльныя, палітычныя і маральныя перакананні навукоўца. Яго біяграфія сведчыць пра з’яўленне ў парэформеннай Расійскай імперыі асобы новага тыпу, а менавіта — чалавека эпохі мадэрнізацыі. Прадстаўнікі гэтай генерацыі разбуралі саслоўную замкнёнасць грамадства, дэманстравалі смелыя дзеянні, індывідуальныя намаганні і дасягненні.

У зусім юным узросце на ўласным сямейным прыкладзе М. Доўнар-Запольскі зразумеў неэфектыўнасць у новых грамадскіх умовах традыцыйнай шляхецка-саслоўнай мадэлі існавання. Ён распрацаваў уласны наватарскі жыццёвы праект, які паспяхова здзейсніў праз выключна асабісты рэсурс — веды, інтэлект, неверагодную працаздольнасць, прафесійныя камунікацыі, талент сацыяльнага менеджара.

Жыццёвымі здабыткамі М. Доўнар-Запольскага сталі сотні публікацый і вышэйадзначаная выкладчыцка-прафесарская дзейнасць у Кіеве, Маскве, Харкаве, Баку, Мінску ды інш.

Аўтарытэт навукоўца, педагога і арганізатара адукацыі забяспечыў М. Доўнар-Запольскаму трывалае месца ў шэрагах навуковай эліты Расійскай імперыі, а таксама вядомасць па-за яе межамі. Аднак акадэмічнае поле не змагло вычарпаць яго шматгранны патэнцыял. Вучоны здзейсніў сябе як таленавіты эканаміст-практык, паспяховы прадпрымальнік, заснавальнік і кіраўнік Паўднёва-Заходняга аддзялення Расійскай экспартнай палаты, Беларускай гандлёвай палаты ў Кіеве (1918). У савецкі час ён стаў адным з тэарэтыкаў і практыкаў «новай эканамічнай палітыкі», працуючы ў дзяржаўна-планавых установах Харкава, Баку, Мінска.

У момант адстойвання дзяржаўных інтарэсаў Беларускай Народнай Рэспублікі Мітрафан Доўнар-Запольскі праявіў сябе здольным палітычным дзеячам і дыпламатам. Яго «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі» (1919), перакладзеныя на пяць моў, сталі сапраўдным маніфестам незалежнасці БНР.

Жыццяпіс вучонага ўтрымлівае каштоўны матэрыял для даследчыкаў палітычнай гісторыі і тых, каго цікавіць праблема «вучоны і ўлада». На працягу свайго жыцця ні ва ўмовах расійскага самаўладдзя, ні пры бальшавіцкім панаванні М. Доўнар-Запольскі не дэманстраваў выразнай партыйна-палітычнай ангажаванасці, але пры гэтым не быў і тыповым узорам кабінетнага архівіста-гісторыка. Пранародніцкія сімпатыі, а пазней ліберальныя перакананні прывялі вучонага да свядомай падтрымкі рэфарматарскай Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі Расіі. Пад уплывам сацыяльных падзей эвалюцыянавалі і навуковыя інтарэсы вучонага. Яны ўсё больш і больш адпавядалі выклікам сучаснасці. Пра гэта сведчаць наватарскія погляды на адмену прыгонага права, пачатак даследавання руху дзекабрыстаў, фундаментальныя абагульняльныя працы па гісторыі і народнай гаспадарцы новай краіны — Беларусі.

Аднак памяркоўна палітычная пазіцыя не стала гарантам бяспекі, пра што сведчыць кіеўская «справа М. Доўнар-Запольскага» 1917 г. і канфлікт з бальшавіцкім кіраўніцтвам БССР. Навуковец пазбег трагедыі, якая напаткала яго блізкіх паплечнікаў ужо на подступах да «Вялікага тэрору», але і яго імя нельга выключыць са спісу ахвяр савецкіх рэпрэсій.

У апошнія дзесяцігоддзі асоба і навуковы даробак вучонага прыцягнулі да сябе ўвагу айчынных і замежных даследчыкаў. Варта адзначыць правядзенне Міжнародных навуковых Доўнараўскіх чытанняў (1999—2017)[1], падрыхтоўку беларуска-украінска-расійскім калектывам біябібліяграфічнага даведніка М. Доўнар-Запольскага, які пабачыў свет двойчы[2].

---

[1] Даследчык гісторыі трох народаў: М. В. Доўнар-Запольскі: Зб. навук. арт. і дак. / Пад рэд. В. М. Лебедзевай. Гомель; Рэчыца: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2000. 293 с.; Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2002. 370 с.; Чацвёртыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Рэчыца, 18—19 верасня 2003 г.: У 2 ч. — Гомель, УА «ГДУ імя Ф. Скарыны», 2004. — Ч. 1: М. В. Доўнар-Запольскі: Жыццё і навуковая спадчына / Рэд. кал.: В. М. Лебедзева (адк. рэд.) і інш. — 226 с.; Пятыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Міжнародная навук. канф. (2005, Рэчыца, 22—23 верасня) / Рэдкал.: В. М. Лебедзева (адк. рэд) і інш. — Гомель: ГДУ ім. Ф. Скарыны, 2005. — 400 с.; Шостыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні, міжнародная канферэнцыя 14—15 лістапада 2007 г.: у 2-х ч.. Ч 1: М. Доўнар-Запольскі: жыццё і навуковая спадчына / В. М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.] — 186 с.; Сёмыя міжнародныя Доўнараўскія чытанні: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Рэчыца, 1—2 кастрычніка 2010 г. / рэдкал.: В. М. Лебедзева (адк. рэд.) [і інш.]. — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2010. — 360 с.

[2] Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: Біябібліяграфічны паказальнік / Уклад.: В. У. Скалабан і інш. — Мінск: Нац. б-ка Беларусі, 2001. — 120 с.; Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі.

Многія творы М. Доўнар-Запольскага сталі класікай. Яны запатрабаваны не толькі спецыялістамі, але і шырокім чытацкім колам, пра што сведчыць іх даволі актыўнае перавыданне ў новую эпоху. Так, у 1994 г. упершыню пабачыла свет у перакладзе на беларускую мову «История Белоруссии», якая была адпраўлена ў архіўнае «спецсховішча» яшчэ ў 1926 г. Аўтэнтычны рускамоўны варыянт кнігі на працягу 2003—2016 гг. вытрымаў чатыры выданні ў Беларусі і быў выдадзены ў Расіі[1]. Падзеяй айчыннага навуковага жыцця стала акадэмічнае выданне працы «Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах» у беларускім перакладзе[2].

У цэлым за апошняе дзесяцігоддзе не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі былі перавыдадзены шматлікія працы даследчыка — ад студэнцкіх гісторыка-этнаграфічных нарысаў да наватарскіх для свайго часу даследаванняў палітычнай гісторыі Расіі[3]. 150-гадовы юбілей вучонага быў адзначаны з'яўленнем тома яго выбраных прац і біяграфічных матэрыялаў у серыі «Беларускі кнігазбор»[4].

* * *

Ад пачатку доўнаразнаўчых даследаванняў узнімалася пытанне пра неабходнасць падрыхтоўкі навуковай біяграфіі М. Доўнар-Запольскага. На жаль, гэтая задача і сёння не вырашана. Пэўным крокам на шляху яе дасягнення можа быць прапанаваны ў дадзеным зборніку комплекс дакументаў, здольны стварыць крыніцазнаўчую аснову жыццяпісу гэтай маштабнай, шматграннай і па-чалавечы супярэчлівай асобы.

У зборнік увайшлі разнастайныя архіўныя матэрыялы, публікацыі перыядычнага друку, успаміны блізкіх і калег, эпісталярная спадчына М. Доўнар-Запольскага, і інш. У адпаведнасці з характарам крыніц пабудавана структура зборніка.

Першую частку склалі ***архіўныя дакументы***, значная частка якіх знаходзіцца па-за межамі Беларусі — ва Украіне, Расіі, Азербайджане, Польшчы і Літве. Навуковыя і біяграфічныя матэрыялы вучонага захаваліся як у фондах устаноў, з якімі была звя-

---

Біябібліяграфічны паказальнік. Выданне другое, папраўленае і дапоўненае / В. М. Лебедзева і інш. Мінск: БелНДІДАС, 2007. — 168 с.

[1] М. В. Довнар-Запольский. История Белоруссии. — Минск: Беларусь, 2003, 2004, 2011, 2016; Довнар-Запольский М.В., История Беларуси: научно-популярное издание. — М: Директ-Медиа, 2014. — 582 с.

[2] М. Доўнар-Запольскі. Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах / падрыхт. да друку: А. І. Груша, Р. А. Аляхновіч — Мінск: Беларуская навука, 2009. (Помнікі гістарычнай думкі Беларусі). — 759 с.

[3] М. В. Довнар-Запольский. Первобытные формы брака. М.: Красанд, 2011. — 168 с.; Довнар-Запольский М. В. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII века. — Мн.: Харвест, 2015. — 288 с.; Довнар-Запольский М. В. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII века. — М.: Кучково поле, 2016. — 211 с.; Довнар-Запольский М. В. Тайное общество декабристов: публицистика. — М: Директ-Медиа, 2014. — 352 с.; М. В. Довнар-Запольский. Политические идеалы М. М. Сперанского. Зарождение министерств в России. Реформа общеобразовательной школы при императрице Екатерине II. Исторический процесс русского народа в русской исторической науке / Сер. Из наследия мировой политологии. — М.: Ленанд, 2016. — 232 с. Довнар-Запольский М. В. Тайное общество декабристов: Исторический очерк, написанный на основании следственного дела. — Репринтное издание 1906 г. — СПб.: Альфарет, 2011. — 356 с.

[4] Мітрафан Доўнар-Запольскі. Выбранае / уклад. В. М. Лебедзевай. — Мн.: Беларуская навука, 2017. — 668 с.

зана яго службовая дзейнасць, так і ў фондах асабістага паходжання персон, з якімі М. Доўнар-Запольскі быў звязаны агульнымі справамі альбо сяброўскімі кантактамі. Прадстаўленыя дакументы з'яўляюцца надзвычай важнай інфарматыўнай асновай для рэканструкцыі кіеўскага, мінскага і маскоўскага перыядаў яго жыцця і дзейнасці. На жаль, страчанымі лічацца матэрыялы харкаўскага перыяду, невядомы лёс паслярэвалюцыйнага асабістага архіва М. Доўнар-Запольскага, недасягальнымі для ўкладальніка засталіся дакументы фонда Азербайджанскага ўніверсітэта, які захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Азербайджана.

Найбольшае дакументальнае багацце ўтрымліваюць архівы Украіны. Так, у *Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў г. Кіеве (ЦДГАУК)* знаходзіцца «Асабісты фонд прафесара М. В. Доўнар-Запольскага» (ф. 262), які сфарміраваўся ў 1920—1930-я гг. З 212 яго адзінак захавання 120 звязаны з навуковай дзейнасцю, а астатнія — з асабістым жыццём. Усе дакументы можна падзяліць на афіцыйныя і асабістыя, якія адлюстроўваюць жыццёвы і прафесійны шлях ад нараджэння да 1914 г., а таксама эпісталярый за перыяд 1889—1919 гг. Значная частка ліставання з гэтага фонду ўвайшла ў адпаведны раздзел зборніка. У іншых фондах ЦДГАУК захоўваюцца адзінкавыя, але важныя дакументы. У прыватнасці, фонд Канцылярыі Папячыцеля Кіеўскай вучэбнай акругі (ф. 707) утрымлівае матэрыялы студэнцкага перыяду, а фонды Канцылярыі Кіеўскага, Падольскага і Валынскага генерал-губернатара (ф. 442), як і Кіеўскага ахоўнага аддзялення (ф. 275) утрымліваюць звесткі пра палітычную арыентацыю і грамадскую актыўнасць вучонага.

Грунтоўны збор біяграфічных дакументаў М. Доўнар-Запольскага знаходзіцца на захаванні ў *Дзяржаўным архіве г. Кіева (ДАК)*. Шматлікія матэрыялы, звязаныя з навуковай, выкладчыцкай і адміністрацыйнай кар'ерай, утрымліваюць фонды Кіеўскага ўніверсітэта св. Уладзіміра (ф. 16), Кіеўскага Камерцыйнага інстытута (ф. 153), Кіеўскай калегіі Паўла Галагана (ф. 185) ды інш. Дзейнасць вучонага ў гарадскім самакіраванні (1902—1905) можна прасачыць па дакументах фонду Кіеўскай гарадской думы (ф. 163).

Пра ўдзел навукоўца ў беларускім нацыянальным руху паведамляюць дакументы *Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва вышэйшых органаў кіравання Украіны (ЦДАВОВУ)* (г. Кіеў). Так, у фондзе Генеральнага сакратарыята міжнародных спраў Украінскай Цэнтральнай Рады (ф. 2592) захоўваюцца матэрыялы аб удзеле М. Доўнар-Запольскага ў перамовах дэлегацыі Народнага Сакратарыяту БНР з прадстаўнікамі Украінскай Народнай Рэспублікі (красавік 1918 г.).

Дакументальныя крыніцы, звязаныя з асобай М. Доўнар-Запольскага, захоўваюцца таксама ў архівах Расійскай Федэрацыі. У прыватнасці, *Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА)* утрымлівае дакументы пра дзейнасць навукоўца на пасадзе дырэктара Кіеўскага Камерцыйнага інстытута (ф. 744. Дэпартамент агульных спраў Міністэрства народнай асветы).

Хроніка працоўнай дзейнасці М. Доўнар-Запольскага ў савецкі перыяд асвятляецца матэрыяламі *архіва Маскоўскай акадэміі сельскагаспадарчых навук* (звязка № 6), *Архіва Расійскай Акадэміі навук (АРАН)* (ф. 677. Інстытут мовы і пісьменнасці народаў СССР, НДІ этнічных і нацыянальных культур народаў Савецкага Усхода). Акрамя гэтага, у фондзе Таварыства гісторыкаў-марксістаў пры Камуністычнай Акадэміі ЦВК СССР (ф. 377) АРАН захоўваецца рэцэнзія савецкага «цэнзара № 1» дырэктара Інстытута Леніна пры ЦК УсеКП(б) Івана Скварцова-Сцяпанава, дзе

аўтар выкрываў «антымарксісцкі характар» энцыклапедычных артыкулаў М. Доўнар-Запольскага.

У фондах *Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі (ДАРФ)* захоўваюцца дакументы, якія дапаўняюць карціну працоўнай дзейнасці навукоўца ў савецкі перыяд. У прыватнасці, гэта матэрыялы фонда Расійскай асацыяцыі навукова-даследчых інстытутаў грамадскіх навук (ф. 4655). У матэрыялах Камісіі па наданні персанальных пенсій пры Савеце Міністраў РСФСР (ф. 539) знаходзяцца каштоўныя асабістыя дакументы, а менавіта рэкамендацыі да надання М. Доўнар-Запольскаму персанальнай пенсіі, а таксама пасведчанне аб яго смерці.

Эпізод са спробай абрання прафесара Доўнар-Запольскага ў акадэмікі АН СССР, які характарызуе лёс усёй савецкай гуманістыкі міжваеннага перыяду, асвятляецца дакументамі *Санкт-Пецярбургскага філіяла АРАН (СПФ АРАН).* Гэтыя дакументы знаходзяцца ў зборах справаводства Сакратарыята АН СССР (1929) (ф. 2) і ў асабістым фондзе акадэміка Яўхіма Карскага (ф. 292). Сярод матэрыялаў Сакратарыята захоўваецца справа Мітрафана Доўнар-Запольскага з лістамі-рэкамендацыямі ад навукоўцаў з УССР і РСФСР і адзіным такім лістом з Беларусі — ад Аляксандра Цвікевіча. Да «акадэмічнага» блока далучаецца таксама рэкамендацыя прафесара Аркадзя Пятрова, якая знайшлася ў *Аддзеле рукапісаў Расійскай Дзяржаўнай бібліятэкі* ў Маскве.

Беларускія старонкі біяграфіі прафесара Доўнар-Запольскага найбольш грунтоўна прадстаўленыя ў матэрыялах архіваў Беларусі. Так, у фондзе Мінскага губернскага дэпутацкага схода (ф. 319) *Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску (НГАБ у Мінску)* захоўваецца шэраг радаводных дакументаў Доўнар-Запольскіх, а менавіта службовая справа бацькі Віктара Марцінавіча Доўнар-Запольскага, пасведчанне пра ягоны шлюб з Аляксандрай Станіславаўнай Ліндахер (маці вучонага), метрычныя выпісы аб нараджэнні і хрышчэнні іх дзяцей, аб прызнанні Мітрафана і яго брата Пятра дваранамі.

*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ)* у фондзе Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі (ф. 325) утрымлівае дакументы, датычныя дзейнасці М. Доўнар-Запольскага як дыпламата і палітыка БНР. Матэрыялы Бюро ЦК КП(б)Б (ф. 4п) асвятляюць афіцыйны бок гісторыі вяртання вучонага ў Беларусь, развіцця яго канфлікту з кіраўніцтвам БССР і выдалення з Беларусі (1925—1926). Дакументальныя звесткі пра выкладчыцкую дзейнасць прафесара Доўнар-Запольскага і яго жонкі Надзеі Маркіянаўны захоўваюцца ў фондзе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (ф. 205).

Каштоўныя матэрыялы, якія сведчыць пра намаганні навукоўца ў справе разбудовы нацыянальнай акадэмічнай навукі знаходзяцца ў *Цэнтральным навуковым Архіве Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ)* у фондзе Інстытута беларускай культуры (ф. 67). Тут захоўваюцца пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума Інбелкульта, а таксама службовыя запіскі Доўнар-Запольскага, якія адлюстроўваюць ягоныя ініцыятывы і праекты развіцця гістарычнай навукі, археаграфіі, вяртання музейных каштоўнасцяў і г. д.

Большая частка адабраных для выдання архіўна-дакументальных крыніц друкуецца ўпершыню. Перадрук некаторых дакументаў тлумачыцца іх важнасцю і абмежаваным доступам да ранейшых публікацый. Напрыклад, у беларускамоўным выданні «Гісторыі Беларусі» (Мінск, 1994) была апублікаваная негатыўная рэцэнзія кіраўніка аддзела друку ЦК КП(б)Б Віталя Сербенты. Укладальнік палічыла неабходным

перадрук гэтага дакумента ў комплексе з матэрыяламі аб выдаленні М. Доўнар-Запольскага з Мінска.

У зборніку «Архівы БНР» (Т. 1, кн. 1, 1998) апублікаваны дакументы пра Доўнар-Запольскага як дзеяча БНР (1918—1919) з фондаў Літоўскага Цэнтральнага гістарычнага архіва (ф. 582). Некаторыя з іх друкуюцца паўторна ў комплексе з новаадшуканымі і не друкаванымі дакументамі з гэтага ж архіва.

Новай формай прэзентацыі творчай спадчыны і біяграфічных матэрыялаў М. Доўнар-Запольскага з'яўляюцца архіўныя online-выставы. Першая з іх «Довнар-Запольский Митрофан Викторович и петербургские научные круги»[1] была арганізавана Санкт-Пецярбургскім філіялам АРАН у сакавіку 2013 г. На ёй было прадстаўлена ліставанне М. Доўнар-Запольскага з прадстаўнікамі пецярбургскага акадэмічнага кола, а таксама дакументы, звязаныя з вылучэннем вучонага ў акадэмікі АН СССР.

Online-выстава Беларускага навукова-даследчыцкага цэнтра электроннай дакументацыі «Жизнь и деятельность выдающегося исследователя белорусской истории М. В. Довнар-Запольского»[2] была прымеркавана да 150-годдзя з дня яго нараджэння (2017). Аўтары праекта прэзентавалі разнастаўныя матэрыялы, у тым ліку лічбавыя копіі біяграфічных дакументаў з беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх архіваў. Таксама былі прадстаўленыя некаторыя сучасныя публікацыі пра вучонага, але падыход арганізатараў да ацэнкі навуковай вартасці некаторых з іх аказаўся некрытычным.

Шэраг біяграфічных матэрыялаў прэзентаваны інфармацыйна-бібліяграфічным рэсурсам «М. В. Довнар-Запольський — фундатор Київського комерційного інституту» Навуковай бібліятэкі Кіеўскага нацыянальнага эканамічнага ўніверсітэта, якая носіць імя навукоўца[3].

Большасць уключаных у першы раздзел зборніка дакументаў мае статус афіцыйных. Да гэтай групы можна аднесці пасведчанні, паведамленні, лісты, хадайніцтвы розных ўстаноў і службовых асоб, грамадскіх арганізацый, таксама выпіскі з пратаколаў дзяржаўных і навучальных інстытуцый і г. д. Падобныя дакументы маюць высокую ступень інфарматыўнасці і праўдзівасці. У значнай ступені яны звязаны з службовай і грамадскай дзейнасцю М. Доўнар-Запольскага, а таксама падзеямі яго сямейнага жыцця. Адначасова матэрыялы перадаюць пэўны гістарычны кантэкст, а таксама сацыяльна-палітычныя і грамадска-псіхалагічныя ўмовы жыцця і дзейнасці вучонага.

Акрамя архіўных дакументаў, раздзел уключае асобныя публікацыі друку, а таксама эпісталярныя згадкі суайчыннікаў, у асноўным звязаныя са станаўленнем Беларускай акадэміі навук. Адносна апошніх матэрыялаў выключэнне зроблена для ліставання акадэміка Сцяпана Весялоўскага[4]. Змешчаныя ў гэтым выданні лісты да С. Весялоўскага, П. Смірнова і В. Данілевіча адлюстроўваюць вострую канкурэн-

[1] Довнар-Запольский Митрофан Викторович и петербургские научные круги: архивно-документальная online-выставка — [Электр. рэсурс]. Рэжым доступа — http://ranar.spb.ru/rus/exhibitions/id/424/. Дата доступа: 18.07.2020.

[2] Митрофан Довнар-Запольский (специальная юбилейная рубрика) — [Электр. рэсурс]. — Рэжым доступа — http://archives.gov.by/home/ tematicheskie-razrabotki-arhivnyh-dokumentov-i-bazy-dannyh. Дата доступа: 18.07.2020

[3] Довнар-Запольський. Засновник ALMA MATER [Электр. рэсурс]. — Рэжым доступа. — https://lib.kneu.edu.ua/

[4] Переписка С. Б. Веселовского с отечественными историками. — М.: Древлехранилище, 2001.

цыю навуковых школ і складаныя міжасабовыя стасункі ўнутры агульнарасійскай карпарацыі гісторыкаў.

Яшчэ адну групу сярод архіўна-дакументальных матэрыялаў складаюць асабістыя крыніцы, у т. л. аўтабіяграфічныя сведчанні, складзеныя самім М. Доўнар-Запольскім. Гэтыя матэрыялы дапаўняюць дыскурс афіцыйных дакументаў, а часам выступаюць іх контрверсіяй. Яны з'яўляюцца крыніцай для аналізу інтэлектуальна-псіхалагічнага стану і валявых памкненняў дзеяча, а некаторыя дакументы ўтрымліваюць прамыя ці ўскосныя самаацэнкі. Да гэтай катэгорыі можна аднесці тлумачэнні М. Доўнар-Запольскага пра парушэнне ім гімназічнага рэгламента добранадзейнасці, аўтабіяграфію студэнцкага перыяду, а таксама запіску дырэктара Кіеўскага Камерцыйнага інстытута на імя міністра юстыцыі (1911), у якой М. Доўнар-Запольскі падводзіць пэўныя вынікі ўласнай дзейнасці.

Дакументальны раздзел пачынаецца з матэрыялаў радаводу, якія пацвярджалі дваранскае паходжанне М. Доўнар-Запольскага. Саслоўная прыналежнасць апрыёры вызначала пэўныя прывілеі і кар'ерную схему. Аднак дакументы гімназічнага перыяду (як мазырскія, так і кіеўскія) разам з лістамі сваякоў сведчаць пра пэўны збой «сацыяльнага ліфта», канфлікт кансерватыўнай сістэмы саслоўнай адукацыі з поглядамі пакалення, арыентаванымі на ліберальна-дэмакратычныя каштоўнасці і індывідуальныя дасягненні.

Шматлікая група прапанаваных дакументальных матэрыялаў адносіцца да кіеўскага перыяду біяграфіі даследчыка, які быў найбольш плённым. У цэлым ён працягваўся больш за 25 гадоў — з 1885 па 1919, але перапыняўся амаль сямігадовым ад'ездам у Маскву на працу ў Архіве Міністэрства юстыцыі.

Кіеў даў Доўнар-Запольскаму адукацыю, тут рэалізаваліся яго здольнасці навукоўца, педагога і грамадскага дзеяча, арганізатара адукацыі. На кіеўскі перыяд прыйшліся многія важныя падзеі асабістага жыцця — каханне і шлюбы, смерць першай жонкі і абодвух сыноў, адрачэнне вучняў і калегаў, пераслед з боку улады.

Пра няпросты шлях здабыцця навукі ў Кіеўскім універсітэце сведчаць даведка пра паўкурсавыя іспыты і «Аўтабіяграфічныя звесткі студэнта М. Доўнар-Запольскага» — фактычная справаздача аб зробленым за два гады навучання. Жыццёвыя абставіны — працяглыя хваробы і трагічная смерць жонкі — зрабілі сістэматычныя заняткі немагчымымі. Акадэмічныя дысцыпліны адольваліся праз упартую самастойную працу. Бідавочныя здабыткі ўніверсітэцкага перыяду — этнаграфічныя экспедыцыі, паўсотні публікацый і ўзнагароды за іх, дыплом першай ступені — у значнай ступені сталі вынікам напружаных уласных намаганняў.

Дакументы паведамляюць пра няпросты шлях пошукаў магчымасці самарэалізацыі на радзіме альбо ў блізкім да яе рэгіёне, раскрываюць абставіны першых крокаў да прафесарскага стыпендыяцтва, якое вымушана спалучылася з працай у Маскве.

На жаль, пры падрыхтоўцы зборніка засталіся недаступнымі дакументальныя крыніцы плённых старонак жыцця даследчыка ў маскоўскі перыяд яго біяграфіі, а менавіта працы ў МАМЮ і Археаграфічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства. Пра іх можна меркаваць толькі па справаздачах прафесарскага стыпендыята ў Кіеўскі ўніверсітэт. Усяго два пратаколы пасяджэнняў Рады гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта ўказваюць на факт і ўмовы ўладкавання М. Доўнар-Запольскага на кафедру знакамітага расійскага гісторыка Васіля Ключэўскага.

Больш грунтоўна адлюстраваўся ў архіўных матэрыялах «другі» кіеўскі перыяд (1901—1919) біяграфіі Мітрафана Віктаравіча, які, безумоўна, быў вяршыняй яго навуковай, педагагічнай і грамадскай актыўнасці. Пры гэтым не ўсе аспекты надзвычай разнастайнай і плённай дзейнасці таго часу атрымалі дакументальную фіксацыю.

Ліставанне паміж гісторыка-філалагічным факультэтам і рэктаратам Кіеўскага ўніверсітэта, пратаколы пасяджэнняў Навуковай рады дапамагаюць зразумець абставіны пераводу М. Доўнар-Запольскага з Маскоўскага ў Кіеўскі ўніверсітэт, ілюструюць крокі маладога вучонага па кар'ернай лесвіцы. Можна меркаваць, што Доўнар-Запольскі меў намер замацавацца ў сталіцах імперыі — Маскве альбо Санкт-Пецярбургу, але сувязь з навуковай школай славутага гісторыка Уладзіміра Антановіча аказалася больш трывалай.

Дакументы сведчаць пра ініцыятывы Кіеўскага ўніверсітэта ў вяртанні М. Доўнар-Запольскага. Відавочна, што назапашаны ў Маскве даследчыцкі досвед, як і арганізатарскія здольнасці маладога навукоўца, былі належна ацэнены ў Кіеве, і былыя настаўнікі — Уладзімір Антановіч і Павел Галубоўскі мелі намер перадаць у рукі выхаванца ўніверсітэцкую навуковую спадчыну.

Матэрыялы пра абарону магістарскай і доктарскай дысертацый, наданне адпаведных вучоных ступеняў і прызначэнне на пасады дэманструюць супадзенне на гэтым этапе інтэрэсаў кіеўскай навуковай эліты і М. Доўнар-Запольскага. Варта адзначыць, што дзеля забеспячэння службовага росту навукоўца давялося ламаць некаторыя стандарты расійскай сістэмы адукацыі. Так, у 1902 г. Доўнар-Запольскі заняў пасаду эстраардынарнага прафесара без абавязковай ступені доктара навук і статуса прафесара. Выключэнне дазволіў імператар Мікалай II з улікам «выдатных выкладчыцкіх здольнасцяў магістра Запольскага-Доўнара». Іншым выключэннем стаў дазвол на сумяшчэнне пасады кіраўніка кафедры рускай гісторыі ў Кіеўскім універсітэце з выкананнем абавязкаў дырэктара Кіеўскага Камерцыйнага інстытута.

Дакументы сведчаць пра хуткую інтэграцыю маладога навукоўца ў кіеўскі істэблішмэнт, яго прагу да самасцвярджэння і актыўнай грамадскай дзейнасці. Так, у 1902—1905 гг. Мітрафан Віктаравіч з'яўляўся галосным Кіеўскай гарадской думы, дзе працаваў у некалькіх камітэтах і камісіях, кіраваў гарадской чытальняй імя Аляксандра Пушкіна, выказваў важныя ініцыятывы па сацыяльным і эканамічным развіцці Кіева. Адначасова ён быў сябрам Рады прэстыжнай Калегіі Паўла Галагана, выкладаў у некалькіх кіеўскіх гімназіях, удзельнічаў у падрыхтоўцы Усерасійскага з'езда спецыялістаў па славянскай філалогіі і гісторыі, у якім прыняла ўдзел гуманітарная эліта Расійскай імперыі. Вышэйшым дасягненнем педагагічна-арганізацыйнай дзейнасці вучонага ў Кіеве стала стварэнне і дзесяцігадовае кіраўніцтва Кіеўскім камерцыйным інстытутам — другім у Расійскай імперыі інстытутам падобнага тыпу.

Данясенні Дэпартамента паліцыі, Кіеўскай жандарскай управы, асабіста генерал-губернатара П. Курлова сведчаць пра пэўную эвалюцыю светапогляду вучонага ад неанародніцкага да ліберальнага. Доўнар-Запольскі з гатоўнасцю падтрымаў Партыю канстытуцыйных дэмакратаў: увосень 1905 г. партыя толькі ствараецца, а ў студзені 1906 г. М. Доўнар-Запольскі ужо з'яўляецца сябрам яе кіеўскай арганізацыі. Учынак яскрава сведчыць пра далучэнне навукоўца да найбольш інтэлектуальнай і рэфармісцкай грамадскай плыні. Высокі рэйтынг М. Доўнар-Запольскага сярод кіеўскай інтэлігенцыі пацвярджае яго ўключэнне ў рэдакцыю «Киевских откликов» разам

з Сяргеем Булгакавым, Мікалаем Бердзяевым, Яўгенам Трубяцкім, Лесяй Украінкай і Уладзімірам Караленкам.

Адметна, што размах дзейнасці ў Кіеве не пазбавіў М. Доўнар-Запольскага імкненне рэалізаваць свае здольнасці ў Маскве. Так, у жніўні 1911 г. пасля смерці дырэктара МАМЮ Д. Самаквасава ён падрыхтаваў «Запіску ў Міністэрства юстыцыі аб службовай і навуковай дзейнасці» з разлікам заняць месца кіраўніка архіва.

Асобны комплекс дакументальных крыніц характарызуе ўдзел М. Доўнар-Запольскага ў беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні. Вядома, што цяжкая сітуацыя ў Кіеўскім універсітэце і Камерцыйным інстытуце, сямейны разлад і, нарэшце, выезд з Кіева не дазволілі яму актыўна ўдзельнічаць у беларускім руху ў 1917 г. Затое ў 1918 г. Мітрафан Віктаравіч становіцца важнай фігурай у гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў прадстаўніцтве беларускіх інтарэсаў ва Украіне. Дакументы і газетныя публікацыі раскрываюць ролю навукоўца ў аб'яднанні нацыянальных сіл у Кіеве: аўтар праграмных для нацыянальнага руху публікацый ў газетах «Белорусское слово» і «Белорусское эхо», арганізатар і кіраўнік Беларускай арганізацыі ва Украіне і Беларускай гандлёвай палаты. Клопатам пра інтэлектуальны патэнцыял Беларусі стаў яго праект адкрыцця ўніверсітэта ў Мінску, зварот да навукоўцаў-землякоў падтрымаць справу.

Архіўныя матэрыялы пра перамовы дэлегацыі Народнага Сакратарыята БНР з кіраўніцтвам Украінскай Народнай Рэспублікі дазваляюць сцвярджаць, што М. Доўнар-Запольскі стаяў ля вытокаў беларускай дыпламатыі. Яму належала распрацоўка стратэгіі і тактыкі перамоваў па праблеме дзяржаўных межаў дзвюх краін, вызначэнне геапалітычных арыенціраў Беларусі ў пасляваеннай Еўропе, першыя спробы складання дыпламатычных дакументаў. Захады былі ацэнены належным чынам. Кіраўнікі БНР прапанавалі даследчыку пасаду міністра фінансаў (1918) і запрашалі ў склад дэлегацыі на Парыжскую мірную канферэнцыю (1919). На жаль, адстаяць незалежнасць БНР не атрымалася, а падзеі асабістага жыцця аддалілі М. Доўнар-Запольскага ад Радзімы. Ён выехаў у Крым, потым перабраўся ў Харкаў і, нарэшце, апынуўся ў Баку.

Толькі ў 1925 г. у прафесара з'явілася магчымасць аддаць свой патэнцыял Беларусі. Мінскі перыяд жыцця і дзейнасці, які аказаўся даволі кароткім, збольшага адлюстраваны ў дакументах. Праўда, некаторыя важныя эпізоды ўсё ж застаюцца неасветленымі. Напрыклад, невядома, калі і як была дасягнутая дамоўленасць пра пераезд даследчыка з Баку.

Праца ў БДУ адлюстравалася ў даволі сціплай падборцы дакументаў: анкета, запоўненая пры прыёме на працу, хадайніцтва пра меркаваны ўдзел у з'ездзе польскіх гісторыкаў (1925) і, нарэшце, заява і пасведчанне аб звальненні.

Затое матэрыялы Інстытута Беларускай Культуры даюць магчымасць скласці амаль поўную хроніку дзейнасці Доўнар-Запольскага ў гэтай установе. Пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума Інбелкульта, дакладныя і службовыя запіскі сведчаць, што за кароткі перыяд на пасадзе старшыні Гісторыка-археаграфічнай камісіі Інбелкульта ён распрацаваў праграму развіцця нацыянальнай гістарычнай навукі. У прыватнасці, планавася падрыхтоўка зборніка дакументаў «Беларускі архіў», выданне «Літоўскай метрыкі» ды іншых важных гістарычных крыніц, мапаў па гісторыі Беларусі, вывучэнне гістарычнага Мінска. М. Доўнар-Запольскі адным з першых узняў пытанне рэстытуцыі беларускіх архіваў.

Пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума Інбелкульта і рашэнні Наркамата асветы БССР дазваляюць сцвярджаць, што ініцыятывы даследчыка знаходзілі дзяржаўную падтрымку, а іх аўтар заняў лідэрскія пазіцыі ў беларускай гістарычнай навуцы. Аднак даволі хутка стаўленне кіраўніцтва партыі да прафесара Доўнар-Запольскага кардынальна змянілася. Бюро ЦК КП(б)Б забараніла выданне «Истории Белоруссии» і пастанавіла выслаць яе аўтара з БССР. Варта адзначыць, што надзвычай крытычная рэцэнзія загадчыка аддзела друку ЦК Віталя Сербенты на рукапіс кнігі М. В. Доўнар-Запольскага з'явілася толькі праз месяц пасля абмеркавання рукапісу ў Бюро ЦК, а канчатковае рашэнне пра высылку было прынята амаль праз два месяцы.

Усе прычыны канфлікту паміж навукоўцам і ініцыятарамі ягонага запрашэння ў Мінск застаюцца невысветленымі. Некаторыя публікуемыя дакументы ўказваюць на складанасці ў міжасабовых стасунках у асяроддзі дзеячаў нацыянальнай культуры і навукі («кватэрны» інцыдэнт з Браніславам Эпімах-Шыпілам, напамін Усевалада Ігнатоўскага ў ЦК КП(б)Б пра высылку вучонага ў чэрвені 1926 г.).

Звяртае на сябе ўвагу адзінства беларускіх партыйных, адукацыйных і навуковых структур у імкненні адхіліць М. Доўнар-Запольскага ад удзелу ў культурным і навуковым развіцці БССР, агульнае адмаўленне імі дасягненняў вучонага. Яно засведчана адмовай ЦК КП(б)Б уключыць прафесара ў склад удзельнікаў беларускага семінара пры Маскоўскім міжнародным аграрным інстытуце (1927), негатыўным стаўленнем да прапановы яго абрання акадэмікам АН СССР (1929).

Комплекс крыніц, звязаны з апошнім, маскоўскім, перыядам жыцця М. Доўнар-Запольскага невялікі. Найперш ён паведамляе пра месцы працы і некаторыя ініцыятывы вучонага. Лапідарныя па змесце фармальныя дакументы ў той жа час яскрава адлюстроўваюць незапатрабанасць савецкай сістэмы ў г. зв. «старых спецыялістах», сведчаць пра наканаванасць лёсу вучонага. Рэцэнзія І. Скварцова-Сцяпанава пад назвай «Ідэалогія, чужая марксізму», выносіла прысуд спробам Доўнар-Запольскага ўтрымацца ў савецкім ідэалагічным дыскурсе.

Яшчэ больш яскрава сітуацыя непрыняцця бальшавіцкім кіраўніцтвам дарэвалюцыйных інтэлектуалаў раскрываецца ў дакументах, звязаных са стварэннем Беларускай Акадэміі навук, наданнем персанальнай пенсіі і вылучэннем М. Доўнар-Запольскага ў акадэмікі АН СССР. Асаблівую цікавасць уяўляюць лісты ў падтрымку абрання вучонага ў акадэмікі з Пецярбургскага філіяла АРАН, якія сведчаць пра аўтарытэт і падтрымку Доўнар-Запольскага з боку калегаў-аднадумцаў і вучняў. На гэтым фоне дысанансам выглядала рэакцыя уладаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі БССР. Падтрымка з боку Аляксандра Цвікевіча выглядае асабістай ініцыятывай і актам смеласці на фоне разгортвання барацьбы з беларускім «нацыянал-дэмакратызмам».

У выданне ўключаны таксама дакументы, звязаныя з пасмяротнай ацэнкай дзейнасці Мітрафана Доўнар-Запольскага. Першы з іх — ліст Наталлі Палонскай-Васіленкі да мітрапаліта Украінскай грэка-каталіцкай царквы Іларыёна (Агіенкі), які датычыць праблемы стаўлення даследчыка да ўкраінскага нацыянальнага руху.

Другі дакумент — пратакол абмеркавання артыкула «М. В. Доўнар-Запольскі» для «Беларускай савецкай энцыклапедыі» (1971). У дыскусіі прынялі ўдзел вядучыя прадстаўнікі тагачаснай беларускай акадэмічнай навукі. Ён надзвычай цікавы ў кантэксце разумення стану беларускай савецкай гістарыяграфіі. Пры захаванні савецкіх стэрэатыпаў ацэнкі вучонага як «буржуазнага» і «нацыяналістычнага», а яго метаду як «вульгарна-марксісцкага», відавочна тэндэнцыя да рэабілітацыі яго спадчыны,

належнага прызнання заслуг у развіцці беларускай культуры, станаўленні этнаграфіі, фалькларыстыкі і нацыянальнай гістарыяграфіі.

* * *

Другую структурную частку зборніка складае ***ліставанне***. Эпісталярная спадчына Мітрафана Доўнар-Запольскага знаходзіцца амаль выключна па-за межамі Беларусі. Шматгадовыя пошукі ў фондах ЦДГАУК, АРАН у Маскве і Пецярбургскім філіяле, Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі, Расійскім Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва, аддзелах рукапісаў Расійскай Нацыянальнай і Расійскай Дзяржаўнай бібліятэк, Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. Вярнадскага, у Літаратурным архіве Музея нацыянальнай літаратуры Чэхіі, а таксама ў некаторых іншых дазволілі выявіць даволі значны комплекс карэспандэнцыі М. Доўнар-Запольскага з сябрамі і сваякамі, прадстаўнікамі навукі і адукацыі, грамадскімі дзеячамі, калегамі і вучнямі. У зборнік увайшоў 141 ліст Мітрафана Доўнар-Запольскага і 145 лістоў да яго за перыяд 1889—1934 гг. Пэўная частка эпісталярыя ўжо была апублікавана, у т. л. з удзелам укладальніка[1]. Але значэнне паўнавартаснай біяграфічнай крыніцы ліставанне набывае набывае пры публікацыі ў магчыма поўным выглядзе і ў параўнанні з іншымі матэрыяламі. Менавіта такую спробу ўяўляе сабой дадзенае выданне.

Эпісталярныя дакументы захоўваюць разнастайныя і часам унікальныя біяграфічныя звесткі, якія аднаўляюць і дапаўняюць веды пра падзеі асабістага жыцця, навуковую і грамадскую дзейнасць. Яны ствараюць магчымасць пранікнення ў духоўнапсіхалагічны свет такой яркай і складанай асобы, як М. Доўнар-Запольскі, даюць уяўленне пра ўнутраныя матывы ўчынкаў, тэмперамент даследчыка. Часам яны прыадчыняюць дзверы ў творчую лабараторыю вучонага, даносяць да нас ягоную самаацэнку ды інш.

Аднавіць усю эпісталярную спадчыну навукоўца немагчыма. Большая частка публікуемых лістоў належыць да кіеўскага і маскоўскага перыядаў. Магчыма, разам з дакументамі апошняга перыяду жыцця была страчаная і частка ліставання. Знойдзеныя матэрыялы ў значнай частцы «аднабаковыя», а менавіта альбо гэта лісты М. Доўнар-Запольскага, альбо пасланні да яго. Выпадкі пісьмовага дыялогу эпізадычныя, што тлумачыцца адсутнасцю альбо непаўнатой захавання асабістых архіваў і дакументаў шматлікіх карэспандэнтаў Мітрафана Віктаравіча.

---

[1] Гл., напр.: Письма М. В. Довнар-Запольского Е. А. Ляцкому [за 1899-1917 гг.] / [Публ. С. И. Михальченко] // Евгений Ляцкий = Яўген Ляцкі: Материалы к биографии / Подгот. текстов и публ. С. И. Михальченко. — Брянск: Изд-во БГПУ, 2000. — С. 56—90; Лебедзева В. М. Лісты П. Дземідовіча да М. Доўнар-Запольскага з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны ў Кіеве // Проблемы славяноведения. Сб. научных статей и материалов. — Брянск, 2008. — Вып. 10. — С. 264—274; Валентина Лебедева. Письма гр. П. Уваровой к М. Довнар-Запольскому в Центральном государственном историческом архиве Украины в городе Киеве // Русское наследие в странах Восточной и Центральной Европы: Материалы межгосударственной научной конференции / Брянский государственный университет им. Акад. И. Г. Петровского. — Брянск, РИО Брянского государственного университета, 2010. — С. 185—202; Лебедева, В. М., Бондарь Л. Д. Документальное наследие М. В. Довнар-Запольского в Санкт-Петербургском филиале Архива РАН (СПФ АРАН). // В. М. Лебедева, Л. Д. Бондарь. // Довнар-Запольский Митрофан Викторович и петербургские научные круги архивно-документальная online-выставка — [Электр. ресурс]. Рэжым доступу — http://ranar.spb.ru/rus/exhibitions/id/424/. Дата доступа: 18.07.2020 ды інш.

Каштоўныя звесткі асабістага характару ўтрымліваюць нешматлікія, але інфарматыўна напоўненыя лісты сямейнікаў да Мітрафана Віктаравіча з «Асабістага фонда прафесара М. Доўнар-Запольскага» ў ЦДГАУК. Яны канкрэтызуюць вядомыя па мемуарных крыніцах звесткі аб драматычнай сітуацыі ў сям'і Доўнар-Запольскіх, а менавіта пра развод бацькоў, пра цяжкія матэрыяльныя і маральныя ўмовы выхавання дзяцей, складаныя пошукі самастойнага жыццёвага шляху. Найбольш паказальным у гэтым плане з'яўляецца пісьмовы зварот Віктара Марцінавіча Доўнар-Запольскага да сына, які засведчыў пэўны «канфлікт пакаленняў» і бездапаможнасць радавітай шляхты ўтрымаць новае пакаленне ў сямейнай традыцыі лаяльнай службы дзяржаве. Ва ўнісон з жыццёвай праграмай Мітрафана Віктаравіча «гучыць» ліст яго сястры Серафімы, якая таксама абрала наватарскі для яе асяроддзя шлях настаўніцы. Пра лёс і выпрабаванні балгарскай лініі сям'і сведчаць лісты старэйшага брата Пятра.

Эпісталярый дае шмат інфармацыі пра грамадска-інтэлектуальны кантэкст дзейнасці М. Доўнар-Запольскага і з'яўляецца важным сацыякультурным дакументам эпохі. Паколькі сярод карэспандэнтаў вучонага знаходзіліся аўтарытэтныя спецыялісты ў галіне славяназнаўства і беларусазнаўства, гістарычнай навукі і архіўнай справы, ліставанне ў пэўнай ступені адлюстроўвае стан гуманістыкі ў Расійскай імперыі на рубяжы XIX—XX ст. Адначасна яно выступае як крыніца працэсу сталення навукоўца, яго інтэграцыі ў тагачасную інтэлектуальную эліту, фарміравання кола навуковых інтэрэсаў і г. д. Для апошняга асаблівае значэнне мела ліставанне з прадстаўнікамі кіеўскай гісторыка-філалагічнай школы. Яно таксама перадае стыль адносінаў паміж педагогамі і вучнямі ўнутры ўніверсітэцкай карпарацыі.

Сярод карэспандэнтаў Доўнар-Запольскага — дзеячы старэйшага пакалення, ягоныя настаўнікі У. Антановіч, У. Іконнікаў, Ц. Фларынскі, П. Галубоўскі, М. Уладзімірскі-Буданаў. Перапіска з імі распачалася ў маскоўскі перыяд, калі Доўнар-Запольскі стаў своеасаблівым пасярэднікам паміж *alma mater* і маскоўскім навуковым асяродкам. Праца сакратара і рэдактара ў Археаграфічнай камісіі пры Маскоўскім Археалагічным таварыстве, а таксама апрацоўка «Літоўскай метрыкі» ў МАМЮ, навукова-публікатарская дзейнасць і падрыхтоўка дысертацыі «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах», распрацоўка архіўнай рэформы Д. Самаквасавам з'яўляюцца асноўным напаўненнем тагачаснага жыцця навукоўца і тэмамі ліставання з кіеўскімі калегамі і сябрамі.

Адначасова Мітрафан Доўнар-Запольскі актыўна кантактаваў з прадстаўнікамі свайго пакалення даследчыкаў, менавіта Міхайлам Грушэўскім, Уладзімірам Перацам, Андрэем Лабадой, Васілём Данілевічам, Арсенем Маркевічам ды інш. Розная ступень блізкасці абумовіла розны ўзровень інфарматыўнасці ліставання з тым ці іншым адрасатам гэтай групы. Больш шчыльныя кантакты падтрымліваліся з Уладзімірам Перацам і Андрэем Лабадой, з якімі даследчык быў звязаны навучаннем ва ўніверсітэце, агульным колам знаёмых і стартам у навуку.

Асаблівую цікавасць з улікам ролі кожнага ў беларускай і ўкраінскай гісторыяграфіях уяўляе перапіска Доўнар-Запольскага з Міхайлам Грушэўскім. Галоўная тэма іх кантактаў — абмеркаванне сумесных навукова-публікатарскіх планаў для «Записок наукового Товариства ім. Т. Шевченка», рэдактарам якіх з'яўляўся Грушэўскі. Ліставанне раскрывае тэматыку і планы працы М. Доўнар-Запольскага, яго імкненне

захаваць сувязі з украіністыкай. Змест перапіскі сведчыць аб узаемным прызнанні даследчыцкага аўтарытэта карэспандэнтаў і зацікаўленасці ў супрацоўніцтве. Варта прыгадаць, што М. С. Грушэўскі не абышоў сваімі рэцэнзіямі аніводнай значнай публікацыі Доўнар-Запольскага. Іх перапіска дае таксама важную інфармацыю аб даследчыцкім стылі Мітрафана Віктаравіча, уласцівай яму надзвычайнай шырыні навуковых даследаванняў, што не заўсёды прыносіла плён. Частка публікацый, якія абмяркоўваліся, так і не была падрыхтаваны М. Доўнар-Запольскім.

Вялікую групу карэспандэнтаў М. Доўнар-Запольскага складалі дзеячы навукі і культуры галоўных навуковых цэнтраў Расійскай імперыі — Масквы і Пецярбурга. Стасункі з імі падтрымліваліся на працягу ўсяго жыцця вучонага, а эпісталярныя дакументы раскіданы па многіх архівах, бібліятэках і музеях Украіны і Расіі. Так, у згаданым «Асабістым фондзе прафесара М. Доўнар-Запольскага» (ЦДГАУК) знаходзяцца 16 лістоў старшыні Маскоўскага археалагічнага таварыства (МАТ) графіні Праскоўі Уваравай (да іх далучаны таксама ліст яе дачкі Кацярыны). Яны ахопліваюць пераважна двухгадовы перыяд (1899—1901), калі М. Доўнар-Запольскі быў непасрэдна звязаны з МАТ і аказваў істотны ўплыў на яго дзейнасць. Тэматыка перапіскі адлюстроўвае розныя аспекты дзейнасці МАТ, яго Археаграфічнай камісіі, а таксама падзеі агульнарасійскага навуковага і грамадскага жыцця. Нягледзячы на невялікі аб'ём (некаторыя з лістоў маюць форму запісак), гэтае ліставанне, акрамя пэўных фактаў з навуковага жыцця, перадае псіхалагічную абстаноўку ў асяроддзі расійскай навуковай інтэлігенцыі, а таксама дазваляе больш поўна прадставіць першы маскоўскі перыяд біяграфіі навукоўца.

Менавіта Масква канчаткова зацвердзіла той інтэнсіўны і securities рознабаковы стыль дзейнасці, які быў уласцівы Доўнар-Запольскаму на працягу ўсяго жыцця ў навуцы. Праца ў МАМЮ спалучалася з падрыхтоўкай магістарскай дысертацыі, лекцыямі ў Маскоўскім універсітэце і гімназіі Л. Ржэўскай, фактычным кіраваннем Археаграфічнай камісіяй. За чатыры гады ён падрыхтаваў да выдання некалькі тамоў «Древностей», дзе былі апублікаваныя «Акты Литовско-Русского государства». Сярод апошніх друкаваліся выяўленыя даследчыкам каштоўныя для беларускіх даследаванняў дакументы «Літоўскай метрыкі».

Ліставанне з П. Уваравай, а таксама з вядомым архівістам, загадчыкам бібліятэкі і архіва Свяцейшага Сінода А. Львовым, іншымі зацікаўленымі карэспандэнтамі пашырае гісторыю распрацоўкі найбольш маштабнай расійскай архіўнай рэформы аўтарства дырэктара МАМЮ Дзмітрыя Самакваcава.

Згаданыя лісты маюць таксама важны персанальна-біяграфічны аспект, даюць інфармацыю для разумення тэмпераменту і амбіцый маладога даследчыка, манеры яго прафесійнай палемікі. Перапіска раскрывае прычыну канфлікту Доўнар-Запольскага з яго непасрэдным начальнікам Д. Самакваcавым, што вымусіла вучонага адмовіцца ад працы ў архіве МАМЮ і пакінуць Маскву.

Менавіта на маскоўскі перыяд прыйшліся найбольш актыўныя эпісталярныя кантакты М. Доўнар-Запольскага з прадстаўнікамі пецярбургскай інтэлектуальнай эліты, якія працягвалася і ў наступныя гады. У Пецярбургу лісты вучонага захоўваюцца ў філіяле АРАН і Аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі. У філіяле АРАН лісты Мітрафана Віктаравіча знаходзяцца ў дзевяці асабістых фондах, а ў Адзеле рукапісаў РНБ — у фондах акадэмікаў С. Платонава і А. Бычкова. Наогул, у горадзе на Няве знаходзіліся 14 карэспандэнтаў Доўнар-

Запольскага, сярод якіх былі галоўныя аўтарытэты расійскай навукі акадэмікі Аляксей Шахматаў, Афанасій Бычкоў і Аляксандр Лапо-Данілеўскі, прафесары Пецярбургскага ўніверсітэта Аляксей Сабалеўскі, Уладзімір Ламанскі, Эдуард Вольтэр, Васіль Дружынін ды інш. Кола карэспандэнтаў і інстытуцый, якія яны прадстаўлялі, дае ўяўленне аб ступені інтэграцыі вучонага ў інтэлектуальную эліту Расійскай імперыі ў цэлым і пецярбургскую яе складовую ў прыватнасці. Ліставанне ахоплівае перыяд 1892—1912 гг., а найбольш інтэнсіўная перапіска адбывалася ў 1890-я гг. і была звязана з дзейнасцю Мітрафана Доўнар-Запольскага ў Археаграфічнай камісіі МАТ.

Сталічныя акадэмічныя колы мелі магчымасць па-належнаму ацаніць дасведчанасць маладога спецыяліста па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, паказальнікам чаго з'яўляецца яго ліставанне з Аляксеем Шахматавым і Станіславам Пташыцкім. Яно ўтрымлівае важную, у т. л. для сучаснай літуаністыкі, інфармацыю, звязаную з гісторыяй выдання літоўска-беларускіх летапісаў. Нагодай для пісьмовых кантактаў стала падрыхтоўка Імператарскай Пецярбургскай археаграфічнай камісіяй 17-га тома Поўнага збору рускіх летапісаў, прысвечанага «заходнерускаму» летапісанню, якую здзяйснялі А. Шахматаў і С. Пташыцкі. Невядома, хто быў ініцыятарам кантактаў, але відавочна зацікаўленасць рэдактараў ва ўдзеле ў справе М. Доўнар-Запольскага. Праўда, апошні так і не прыняў удзел у гэтай працы. Прычынамі маглі быць падрыхтоўка і абарона магістарскай дысертацыі, рэдагаванне аб'ёмных выданняў Археаграфічнай камісіі МАТ. Але адказы М. Доўнар-Запольскага даюць яскравае ўяўленне пра яго арыгінальныя падыходы да ацэнкі і інтэрпрэтацыі летапіснай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.

У кіеўскі перыяд кантакты з Пецярбургам становяцца больш спарадычнымі. Кіеўская навукова-гістарычная школа і сам Доўнар-Запольскі ў гэты час сталі пэўнымі апанентамі пецярбургскай, якую ўзначаліў Сяргей Платонаў. Адмоўную ролю таксама адыграла скандальная справа з выкраданнем архіўных дакументаў вучнем Доўнар-Запольскага Яўгенам Сташэўскім, якая негатыўна адбілася і на настаўніку. У Аддзеле рукапісаў РНБ захоўваецца ліставанне дацэнта Кіеўскага універсітэта В. Данілевіча і дэкана гісторыка-філалагічнага факультэта М. Бубнава з С. Платонавым за перыяд 1913—1917 гг., якое сведчыть пра спробу кіеўскіх апанентаў прафесара Доўнар-Запольскага змабілізаваць супраць яго пецярбуржцаў.

Асобае месца ў эпісталярнай спадчыне М. Доўнар-Запольскага займаюць яго кантакты з прадстаўнікамі Беларусі. Гэтае ліставанне з'яўляецца важнай крыніцай для даследавання генэзісу беларускай нацыянальнай ідэі, працэсу станаўлення беларусазнаўства як навукі і грамадскага руху. Яно таксама мае вялікае значэнне для разумення светапогляду і самаідэнтыфікацыі вучонага.

Кола беларускіх адрасатаў адносна невялікае, але іх можна падзяліць на дзве групы. Першая — мясцовыя інфарматары М. Доўнар-Запольскага, якія запісвалі для яго фальклор і збіралі этнаграфічную інфармацыю. Кантакты з гэтай групай адносяцца да перыяду канца 80-х гг. XIX ст — пачатку XX ст., калі навуковыя зацікаўленні Мітрафана Віктаравіча былі непасрэдна звязаны з з беларускай традыцыйнай культурай. Можна меркаваць, што такіх карэспандэнтаў было болей, але да нас дайшлі адзінкавыя лісты толькі ад трох чалавек. Статус інфарматараў характарызуе сацыяльную базу тагачаснага беларусазнаўства — селянін, местачковец і народны настаўнік. Геаграфія адрасатаў абмяжоўваецца Віленскай і Мінскай губ., што ўдакладняе арэал

зацікаўленняў навукоўца. Змест лістоў дазваляе таксама ўявіць методыку тагачасных фальклорна-этнаграфічных даследаванняў.

Асобнае значэнне мела ліставанне са студэнтам Віленскага настаўніцкага інстытута і будучым беларускім этнографам, фалькларыстам і краязнаўцам Паўлам Дземідовічам. Доўнар-Запольскі стаў для яго навуковым настаўнікам і кансультантам. Акрамя праблематыкі беларусазнаўчых пошукаў, лісты раскрываюць грамадска-культурныя абставіны і механізмы фарміравання першага пакалення нацыянальнай інтэлігенцыі, праблемы яе самаідэнтыфікацыі. Гаворка ў лістах ідзе пра грамадскае ўспрыняцце і перспектывы беларускай мовы і літаратуры, пра сістэму народнай адукацыі і падрыхтоўкі настаўнікаў, статус народнага настаўніка. Для гэтай групы карэспандэнтаў М. Доўнар-Запольскі выступаў не проста замоўцам фальклорна-этнаграфічных запісаў, але таксама — настаўнікам і выхавацелем.

Другая група беларускіх карэспандэнтаў М. Доўнар-Запольскага складалася з ягоных паплечнікаў у распрацоўцы навуковага беларусазнаўства. Яна ўключае Еўдакіма Раманава, Аляксея Сапунова, Уладзіміра Стукаліча, Янку Лучыну, Мікалая Нікіфароўскага, Яўхіма Карскага, рэдактара газеты «Минский листок» Канстанціна Зіноўева.

Да гэтай жа групы далучаны Яўген Ляцкі. Гэта абумоўлена не толькі паходжаннем, але і тым, што перыяд ліставання з М. Доўнар-Запольскім прыпадаў якраз на беларусазнаўчыя зацікаўленні Я. Ляцкага, лёс якога потым быў звязаны з рускай культурай. Ліставанне з яшчэ адным суайчыннікам — Арсенам Маркевічам ілюструе рэцэпцыю беларускімі інтэлектуальнымі сіламі шырокай іншакультурнай праблематыкі.

Перапіска з Я. Ляцкім і К. Зіноўевым з'яўляецца найбольш інфарматыўнай крыніцай пераходу ад апісальнага этапу беларусазнаўства да інстытуцыянальнага. Мітрафан Віктаравіч і яго паплечнікі ўвасаблялі новае пакаленне даследчыкаў, якое дэманстравала арганізацыйныя здольнасці і імкненне пераняць ініцыятыву ў славутых папярэднікаў — М. Нікіфароўскага, П. Шэйна, Е. Раманава, М. Янчука ды інш. Менавіта ў гэтым асяродку выспявалі планы сістэмнага вывучэння Беларусі і стварэння для гэтага адпаведных структур.

Аўтары гэтых планаў знаходзіліся па-за межамі краю: М. Доўнар-Запольскі — у Кіеве, а Я. Ляцкі і К. Зіноўеў — у Маскве, але імкнуліся да аднаго, а менавіта да аб'яднання дзеля вывучэння Беларусі расійскіх навуковых структур і даследчыкаў з мясцовымі сіламі. Эпісталярныя дакументы сведчаць пра лідэрскую ролю Мітрафана Доўнар-Запольскага і выспяванне плана стварэння беларусазнаўчага цэнтра. План уключаў арганізацыю даследчага гуртка, а на яго аснове — краёвага навуковага таварыства, а таксама заснаванне мясцовага часопіса, выданне навуковай і папулярнай літаратуры.

Па розных прычынах шмат чаго з планаў і ініцыятыў М. Доўнар-Запольскага і яго паплечнікаў не здзейснілася. Але сам факт ліставання — сведчанне інтэлектуальнай кансалідацыі патрыятычных сіл у пошуку адказу на грамадскі запыт аб прызнанні культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі.

Адзначаючы вялікую каштоўнасць ліставання як біяграфічнай крыніцы, прызнаем неабходнасць далейшых пошукаў эпісталярнай спадчыны М. Доўнар-Запольскага.

* * *

Яшчэ адной унікальнай біяграфічнай крыніцай з'яўляюцца ***мемуары***, якія ўвайшлі ў трэці раздзел зборніка. Індывідуальнасць навукоўца, выкладчыцкі і педагагічны

талент прафесара Доўнар-Запольскага прыгадвалі многія, каму давялося слухаць яго лекцыі. Сярод іх выбітны савецкі гісторык і эканаміст Мікалай Палетыка (1896—1988). Адметна, што з прафесарам Доўнар-Запольскім яго пазней паяднала месца працы — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, хаця М. Палетыка працаваў там праз 20 год пасля свайго настаўніка (1953—1972 гг.).

Ва ўспамінах, напісаных ужо напрыканцы жыцця ў Ізраілі, Мікалай Палетыка сярод найбольш яскравых уражанняў студэнцкага вучнёўства адзначыў лектарскі талент настаўніка: «Вялікую цікавасць у студэнтаў-гісторыкаў выклікалі лекцыі праф. М. Доўнар-Запольскага. Іх стараліся не прапускаць, бо ён чытаў свой курс вельмі своеасабліва. Так, напрыклад, выкладаючы тэму „Каланізацыя паўночна-ўсходняй Расіі і пачатак узвышэння Масквы", ён амаль не кранаўся «тканіны жыцця мінулых часоў», г. зн. фактычнага боку гэтага пытання. У другой гадзіне лекцыі на гэта traцілася 15—20 хвілін, а астатні час быў прысвечаны гістарыяграфіі пытання: М. М. Карамзін тлумачыў гэтую з'яву так, С. М. Салаўёў — гэтак, В. В. Ключэўскі, С. Ф. Платонаў, М. А. Ражкоў ды інш. тлумачылі кожны дадзеную з'яву па-свойму. «Доўнар», як мы яго любоўна звалі ў сваім асяроддзі, тлумачыў, што ён лічыць у ацэнцы кожнага гісторыка правільным ці памылковым і чаму. Пры гэтым дадаваў: «А я тлумачу гэты працэс так і так па наступных прычынах …» і г. д. Перад студэнтамі раскрываліся лабараторыя і, у пэўнай ступені, прыёмы навуковага аналізу гістарычных падзеяў, нараджэнне новых пунктаў гледжання, адмаўленне і адміранне старых, што раней дамінавалі ў гістарычнай навуцы. Зразумела, што цікавасць студэнтаў да лекцый Доўнара быў велізарнай, і яго аўдыторыя — звычайна самая вялікая ва ўніверсітэце — была біткам набіта студэнтамі не толькі нашага, але і іншых факультэтаў»[1].

Блізкія характарыстыкі педагагічнага майстэрства М. Доўнар-Запольскага знаходзім таксама ва ўспамінах іншага слухача яго лекцый у Кіеўскім універсітэце — аўтарытэтнага прадстаўніка ўкраінскай эміграцкай гістарыяграфіі Барыса Крупніцкага (1894—1956)[2].

Яшчэ адзін вядомы гісторык Уладзімір Пічэта ва ўспамінах пра навучанне ў Маскоўскім універсітэце[3] згадаў толькі адзін эпізод з удзелам Мітрафана Доўнар-Запольскага, які палічыў важным для ілюстрацыі навуковай атмасферы ў *alma mater*, а менавіта абарону дысертацыі Мацвея Любаўскага, якому апаніраваў прафесар Доўнар-Запольскі. Адзначыўшы не зусім прыхільныя адносіны дысертанта і яго апанента, У. Пічэта акцэнтаваў увагу на навуковай дасведчанасці і карэктнасці ў дыскусіі з боку апошняга. Пазней Пічэта прызнаваў сябе ў пэўнай ступені вучнем Мітрафана Віктаравіча.

З усіх мемуарных крыніц аб'ёмам, змястоўнасцю і інфарматыўнасцю вылучаюцца ўспаміны дзвюх жанчын — Наталлі Палонскай-Васіленкі і Надзеі Доўнар-Запольскай, трэцяй жонкі вучонага. Гэтыя дакументы блізкія па эмацыянальным настроі,

[1] Николай Полетика. Воспоминания. — Москва (подпольная перепечатка эмигрантского издания), ок. 1978 г. [Электр. рэсурс] // Рэжым доступу: https://www.litmir.me/br/?b=124100—p=1. Дата доступа: 18.07.2020.

[2] Борис Крупницький. Зі спогадів історика / Упоряд., вст. стаття, ком. Дмитра Гордієнка; [Інститут української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського НАН України]. — К., 2017. — С. 5—16.

[3] Пичета В. И. Воспоминания о Московском университете (1897—1901) // Московский университет в воспоминаниях современников. М., 1989. — С. 587.

дыстанцыі назірання, неабыякавасці ўспрыняцця, хаця іх аўтаркі адыгралі розныя ролі ў жыцці М. Доўнар-Запольскага.

Наталля Палонская — яскравы прадстаўнік навукова-педагагічнай школы М. Доўнар-Запольскага, адна з самых паспяховых яго выхаванак. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што менавіта свайму навуковаму кіраўніку маладая слухачка Вышэйшых жаночых курсаў была абавязана ўнікальнай для тых часоў кар'ерай — стаць першай жанчынай з вышэйшай навуковай ступенню ва ўкраінскай гістарычнай навуцы. Адначасова творчая біяграфія Н. Д. Палонскай абвяргае папрокі на адрас навуковай школы М. Доўнар-Запольскага ў яе скіраванасці на расійскую даследчыцкую парадыгму і дэманструе яе ўнёсак у станаўленне маладых нацыянальных гістарыяграфій.

Характарызуючы ўспаміны Наталлі Палонскай-Васіленкі, трэба адзначыць, што аўтарка з'яўлялася калегай і паплечніцай М. Доўнар-Запольскага, удзельніцай навуковых і грамадска-палітычных працэсаў, у кантэкст якіх яна ўпісвала асобу вучонага. Яна бачыла яго ў розных жыццёвых і прафесійных сітуацыях, у стасунках з роднымі і блізкімі, калегамі і вучнямі, уладай і грамадскасцю.

Да асобы Доўнар-Запольскага яго былая вучаніца рэтраспектыўна звярталася неаднаразова. Так, яшчэ на пачатку 1950-х гг. для «Запісаў Беларускага Інстытута навукі і мастацтва» (Нью-Ёрк) яна падрыхтавала нарыс біяграфіі вучонага, у значнай ступені заснаваны на ўласных успамінах[1].

У тыя ж гады Наталля Палонская-Васіленка працягвала працу над жыццяпісам уласнага жыцця, якая пачалася ў 1945 г. і працягвалася да 1973 г., калі яна адышла ў нябыт. Успаміны ахапілі перыяд з канца XIX і да сярэдзіны XX ст. Фрагменты ўспамінаў пасобку друкаваліся ў розных украінскіх эмігранцкіх выданнях. Канчатковы тэкст доўгі час лічыўся страчаным. Толькі дзякуючы шчасліваму выпадку ў 1983 г. быў знойдзены іх фрагмент, які ўтрымліваў разгорнутыя сюжэты, звязаныя з М. Доўнар-Запольскім. Намаганні ўкраінскіх даследчыкаў паспрыялі таму, што ў 2011 г. выйшаў з друку найбольш поўны варыянт мемуараў «Спогади»[2]. З улікам навізны інфармацыі і абмежаванага доступу беларускага чытача да ўспамінаў Н. Палонскай-Васіленкі ў дадзеным зборніку публікуецца фрагмент часткі ўспамінаў, які ахоплівае перыяд 1907—1917 гг.

Між іншым яны распавядаюць гісторыю адносін вучаніцы і настаўніка на працягу дзесяці год ад першай іх сустрэчы да спробы разам пережыць жахлівы 1917 г. Але ў ліпені таго ж года Н. Палонская пакінула М. Доўнар-Запольскага ў Новачаркаску і вярнулася ў Кіеў наведаць бацькоў. Больш яны не сустрэліся.

Ва ўспамінах уласныя назіранні аўтаркі спалучаныя з пераказам аповедаў сучаснікаў, у т. л. Мітрафана Доўнар-Запольскага, што надае ім вялікую ступень дакладнасці. Каштоўнасць сведчанняў Наталлі Дзмітрыеўны вызначаецца іх высокай інфармацыйнасцю. Яны не толькі ўдакладняюць малавядомыя факты, але таксама адкрываюць новыя старонкі біяграфіі вучонага. Між іншым, Наталля Палонская была сведкам абароны Доўнар-Запольскім права рэчыцкіх сялянаў карыстацца сервітутамі. Ягоную неабыякавасць яна тлумачыць пранародніцкімі поглядамі М. Доўнар-Запольскага. Паводле яе меркавання, менавіта рэпутацыя «народніка» стала падставай для

[1] Палонская-Васіленка Н. Даўнар-Запольскі: Зацемкі да біяграфіі // Запісы Беларус. Ін-та навукі й мастацтва. — 1953. — № 1 (3). — С. 14—28.

[2] Наталія Полонська-Василенко. Спогади / Упорядкування, вступна стаття та іменний покажчик В. Шевчука. — Київ: Вид. Дім «Киево-Могилянська академія», 2011. — 591 с.

ўвядзення паліцэйскага нагляду, а таксама абярнулася пэўным недаверам да навукоўца з боку кіеўскага афіцыёзу. Разважанні аўтаркі дапамагаюць убачыць эвалюцыю грамадска-палітычнага светапогляду нашага героя ад народніцка-дэмакратычнага да ліберальнага, да ідэалогіі канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі.

Таксама вартая ўвагі адзначаная Н. Палонскай-Васіленка непаслядоўнасць пазіцый Доўнар-Запольскага ў некаторых вострых грамадскіх пытаннях і сітуацыях, у стасунках з уладамі і калегамі. Магчыма, тут праяўляліся не столькі пэўныя якасці характара, колькі выпрацаваная жыццёвым вопытам тактыка лавіравання.

Успаміны Наталлі Палонскай дапамаглі разгадаць таямніцу першага шлюбу М. Доўнар-Запольскага. Дзякуючы ім удалося высветліць, что яго першай жонкай з'яўлялася Надзея Пятроўна Казлякоўская — прадстаўніца вядомай палескай святарскай дынастыі.

Большая частка публікуемых успамінаў датычыць кіеўскага перыяду. Як і іншыя вучні прафесара, Н. Палонская-Васіленка не абыходзіць увагай даследчыцкі талент Доўнар-Запольскага, яго фенаменальныя здольнасці педагога і аўтарытэт арганізатара адукацыі. На погляд аўтаркі, пры ўсіх дасягненнях М. Доўнар-Запольскага, яго вялікі патэнцыял не быў цалкам рэалізаваны. Яна звяртае таксама ўвагу, што незвычайная адданасць вучням, якая дазволіла прафесару сфарміраваць уласную навуковую школу, не заўсёды прыносіла плён, а ў некаторых выпадках станавілася прычынай асабістай маральнай і прафесійнай драмы.

Аўтарка ўспамінаў закранула таксама тэму няпростых адносінаў М. Доўнар-Запольскага з кіеўскім інтэлектуальным асяродкам, у т. л. украінскімі нацыянальнымі дзеячамі. Адметна пры гэтым, што яна не падтрымала пашыранае ў той час і пазней меркаванне пра непрыхільнасць Доўнар-Запольскага да ўкраінскай ідэі. Разыходжанні Н. Палонская-Васіленка схільна тлумачыць персанальна-асабістымі, а не ідэйна-нацыянальнымі матывамі. Выказанае ў мемуарах меркаванне, як адзначана вышэй, яна пацвердзіла ў лісце 1953 г. да мітрапаліта Іларыёна. Варта звярнуць увагу на яе меркаванне, бо аўтарка належыла да адданых носьбітаў украінскай нацыянальнай ідэі.

«Спогади» з'яўляюцца таксама найбольш поўнай крыніцай для рэканструкцыі аднаго з найбольш складаных і загадкавых эпізодаў біяграфіі М. Доўнар-Запольскага, звязаных з рэвалюцыйнымі падзеямі 1917 г. Аўтарка даволі падрабязна перадае абставіны кар'ернага крызісу вучонага, прычыны абвінавачванняў у яго адрас з боку Кіеўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а таксама «левых» студэнцкіх колаў, адхілення ад працы ў Кіеўскім Камерцыйным інстытуце і Універсітэце св. Уладзіміра. Больш зразумелай становіцца таксама сямейная сітуацыя М. Доўнар-Запольскага, а менавіта драматычны разрыў з Надзеяй Зэйферт і сынамі.

Сімпатыю да Мітрафана Віктаравіча як вучонага і чалавека Н. Палонская-Васіленка захавала на ўсё жыццё. Гэта адчувальна ў эмацыйнай перадачы падзеяў, яе ацэнках, імкненні зразумець матывы ўчынкаў і пазіцыю Доўнар-Запольскага ў неадназначных сітуацыях і дачыненнях. Успаміны дадаюць яскравыя фарбы ў псіхалагічны партрэт дзеяча, малюючы яго неардынарнай і часам супярэчлівай асобай, якой даводзілася рабіць няпросты выбар у складаных жыццёвых і гістарычных умовах.

Хоць успаміны Н. Палонскай-Васіленкі з'яўляюцца каштоўным фактычна-біяграфічным сведчаннем «з першых рук», але трэба адзначыць наяўнасць пэўных

недакладнасцяў і памылак. Пераважна яны датычаць тых перыядаў жыцця Доўнар-Запольскага, сведкам і ўдзельнікам якіх яна асабіста не з'яўлялася.

Яшчэ адной важнай мемуарнай крыніцай для рэканструкцыі біяграфіі М. Доўнар-Запольскага з'яўляецца дзённік яго трэцяй жонкі Надзеі Маркіянаўны. У свой час гэтая крыніца была ласкава перададзеная ўкладальніцы для карыстання вядомым беларускім даследчыкам Арсенем Лісам (1934—2018), які стаяў ля вытокаў вяртання памяці пра Доўнар-Запольскага. Да яго дзённік патрапіў на пачатку 1990-х гг. з сям'і ўнука Мітрафана Віктаравіча маскоўскага юрыста Валерыя Савіцкага.

Варта адзначыць своеасаблівасць крыніцы і пэўную ўмоўнасць тэрміна «дзённік». Паводле Арсеня Ліса, першапачатковы варыянт запісаў складаўся з больш чым дзесятка рукапісных сшыткаў, але ў 1966 г. Надзея Маркіянаўна запісала скарочаную версію ў адным сшытку, якая і трапіла да даследчыка.

Прычыны з'яўлення новага варыянта невядомыя. Запісы ахопліваюць перыяд ад 1912 да 1936 г. Да жніўня 1921 г. яны, верагодна, цалкам паўтаралі першапачатковы варыянт, а пазнейшыя, як прызнавалася самая аўтарка, дапаўняліся праз 43 гады. Магчыма, нагодай для стварэння новай рэдакцыі і дапаўненняў магла быць мяркуемая падрыхтоўка 100-гадовага юбілея М. Доўнар-Запольскага (1967). Не выключана, што дачыненне да справы мог мець вядомы беларускі гісторык Мікалай Улашчык (1906—1986), які кантактаваў з удавой у Маскве і цікавіўся архівам Доўнар-Запольскага. На карысць апошняга сведчаць сямейныя фотаздымкі Мітрафана Віктаравіча, якія захоўваюцца ў архіўным фондзе Мікалая Улашчыка ў Цэнтральнай навуковай бібіліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (ф. 44, воп. 1).

Дзённік таксама з'яўляецца адзінай крыніцай, якая распавядае пра Надзею Маркіянаўну, найбольш блізкага М. Доўнар-Запольскаму чалавека, якая знаходзілася побач з ім у самыя драматычныя моманты савецкага перыяду жыцця.

Надзея Доўнар-Запольская (у дзявоцтве Федаровіч) нарадзілася, верагодна, у Харкаве, дзе прайшло яе дзяцінства і юнацтва. Бацька, па пэўных звестках, быў архівістам. Яна рана страціла маці і выхоўвалася разам з іншымі дзецьмі бацькам і бабуляй. Скончыла ў Харкаве Жаночы інстытут, захапілася замежнымі мовамі — французскай і нямецкай, навучалася на лінгвістычных курсах у Парыжы, потым у Дыжонскім універсітэце. Пасля вяртання працавала ў Харкаўскай жаночай гімназіі. У 1918 г. выйшла замуж за выпускніка юрыдычнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Сумеснае жыццё было кароткім. На наступны год муж пайшоў ваяваць супраць бальшавікоў, а Надзея накіравалася ў Керч разам з бацькам, які быў запрошаны архіварыусам у мясцовы музей. Менавіта тут яна сустрэлася з М. Доўнар-Запольскім, з якім засталася да апошняга дня ягонага жыцця.

Дзённік Надзеі Доўнар-Запольскай, як гэта ўласціва жанру, падае шмат інфармацыі прыватнага, часам інтымнага характару. Светапогляд і зацікаўленасці аўтаркі не арыентавалі яе на апісанне, а тым больш на аналіз гістарычнага кантэксту. Апошняе можна адчуць толькі праз хроніку штодзённасці, а таксама праз аўтарскія лаканічныя альбо эмацыянальныя заўвагі, прыведзеныя дэталі асабістага жыцця. У гэтым сэнсе варта адзначыць апісанне арышту М. Доўнар-Запольскага ў Крыме, умовы яго працы ў савецкім Харкаве і несавецкім Баку, голад у перыяд «харчовай дыктатуры» ў Новачаркаску, уражанні ад праезду праз «ваенна-камуністычную» Маскву ды інш.

Дзённік з'яўляецца каштоўнай і ўнікальнай біяграфічнай крыніцай, бо асвятляе найменш вядомыя перыяды жыцця М. Доўнар-Запольскага — крымскі, бакінскі, мінскі і апошні — маскоўскі. Ён дапамагае рэканструяваць атачэнне і кантакты вучонага. Таксама, як і ў выпадку ўспамінаў Н. Палонскай-Васіленкі, прыведзеныя характарыстыкі і ацэнкі блізкага чалавека шмат даюць для разумення яго псіхалагічнага партрэта. Так, з апісання Надзеі Маркіянаўны можам даведацца пра абставіны з'яўлення Доўнар-Запольскага ў Крыме, куды яго прывялі падзеі грамадзянскай вайны. Крым стаў на той час прытулкам шматлікіх прадстаўнікоў дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі, дзе яны ратаваліся ад «чырвонага тэрору» пад аховай урада Пятра Урангеля. Вядомым цэнтрам канцэнтрацыі інтэлігенцыі, і ў т. л. універсітэцкай прафесуры, быў Сімферопаль. Дзённік сведчыць, што іншым падобным анклавам «інтэлектуальнага бежанства» стала Керч.

Запісы істотна дапаўняюць ужо вядомыя факты пра стварэнне ў Керчы Баспорскага ўніверсітэта і вядучую ролю ў гэтай справе прафесара Доўнар-Запольскага[1]. Падрыхтоўка праекта ўніверсітэта з яго завочным удзелам вялася на працягу 1917—1918 гг., але была перарваная. Са з'яўленнем М. Доўнар-Запольскага ў Керчы ў самых неспрыяльных умовах праца па адкрыцці ўніверсітэта набыла здзіўляючую дынаміку і паспяховае завяршэнне. Апісанае з'яўляецца яскравым доказам уласцівых М. Доўнар-Запольскаму неўтаймаванай энергіі, арганізатарскага таленту, мэтанакіраванасці і прагматызму.

Гісторыя збліжэння Мітрафана Віктаравіча з Надзеяй Маркіянаўнай дапаўняе псіхалагічны партрэт першага і дэманструе ягоную амаль неверагодную жыццяздольнасць. Новае захапленне прыйшло неўзабаве пасля перажытай трагедыі — смерці сыноў. Нягледзячы страту, на супраціў бацькі Надзеі Маркіянаўны, на вялікую розніцу ва ўзросце, яны сышліся, і гэта не было легкадумствам альбо памылкай. Аўтарка дзённіка неаднаразова прызнавалася на яго старонках, што спазнала сапраўднае і глыбокае пачуццё, выказвала шчырае захапленне асобай мужа.

Дзённікавыя запісы не заўсёды захоўваюць храналагічную паслядоўнасць і рэгулярнасць, але, на шчасце, яны не абыходзяць найважнейшых падзей і здарэнняў таго драматычнага часу. Пэўна, ва ўмовах бальшавіцкай дыктатуры Надзея Маркіянаўна не наважылася пазначыць дакладную прычыну арышту М. Доўнар-Запольскага ў Керчы ў снежні 1920 г. Можна, аднак, меркаваць, што арышт быў выкліканы актыўнасцю прафесара як кіраўніка Баспорскага ўніверсітэта. Пасля захопу бальшавікамі Крыма ўніверсітэт быў зачынены загадам № 1 Крымскай Надзвычайнай камісіі. Дзённік паведамляе пра даты арыштаў выкладчыкаў універсітэта, маршрут іх адпраўкі ў Джанкой, клопаты па пошуку родных, смерць бацькі і барацьбу за жыццё цяжка хворага мужа.

Каштоўнасць успамінаў Надзеі Маркіянаўны яшчэ больш узрастае пры рэканструкцыі апошніх перыядаў жыцця даследчыка, асабліва харкаўскага, бакінскага

[1] Людмила Гурбова. М. В. Довнар-Запольский и Крым // Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні, Рэчыца. 14—15 верасня 2001 г., Мн., 2002. С. 17; Лебедева В. М. Крымский период жизни М. В. Довнар-Запольского по материалам дневника жены // Ученые записки Таврического нац. ун-та им. В. И. Вернадского. Сер.: «Исторические науки». — Т. 25 (64). — № 1. — Симферополь: Изд-во ТавГУ, 2012. — С. 97—105; Непомнящий А. А. Историко-археологический факультет Боспорского университета: несостоявшийся проект // Уваровские Таврические чтения IV: Материалы Международной научной конференции 12-15 сентября 2019 г. Севастополь, 2019. — С. 138—143.

і маскоўскага. Гэтыя перыяды амаль цалкам пазбаўленыя дакументальных і эпістальярных крыніц. Даволі падрабязна апісаны многія асабістыя аспекты жыцця М. Доўнар-Запольскага. Прынамсі, шматкроць фіксуецца стан яго здароўя, што з цягам часу ўсё больш абмяжоўваў звыклую актыўнасць і самааддачу, уплываў на жыццёвы выбар, як гэта было з пераездам вучонага з Харкава ў Баку.

Азербайджанскі перыяд, паводле аўтаркі, быў лепшым, у параўнанні як з папярэднім харкаўскім, так і з наступным — мінскім. Яго апісанне мае не толькі біяграфічнае, але і агульнагістарычнае значэнне для разумення асаблівасцяў станаўлення «савецкіх рэспублік» на былых нацыянальных ускраінах імперыі. Баку ў 1920-я гг. паўстае анклавам несавецкасці. Дзённік распавядае пра ўніверсітэт з дарэвалюцыйнай прафесурай і асобным статутам, пра камфортнае жыццё мясцовай навуковай эліты з магчымасцямі курортнага адпачынку, падарожжаў у Крым і на Каўказ, згадвае мадэрністычна-творчы асяродак, ужо знішчаны «пралеткультам» у цэнтры краіны.

Падобна, што менавіта ў Баку Доўнар-Запольскі меў апошнюю магчымасць рэалізаваць свой досвед, кваліфікацыю і працаздольнасць. Але і гэты жыццёвы перыяд не быў пазбаўлены асабістай трагедыі. Надзея Доўнар-Запольская апісвае жахлівы голад на Кубані, ад якога ледзь не загінула дачка Мітрафана Віктаравіча Ірына і памёр яго маленькі ўнук.

Тым не менш, летам 1925 г. паўстала пытанне аб пераездзе з Баку ў Мінск. Гэты пераезд застаецца пэўнай загадкай біяграфіі навукоўца. Дзённік паведамляе пра запрашэнне на працу ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, падае даты вырашэння пытання пра пераезд і некаторыя яго дэталі. Але аналагічна з іншымі крыніцамі ў дзённіку адсутнічае інфармацыя пра ініцыятараў пераезду і звязаныя з ім перамовы.

На жаль, дзённікавыя звесткі аб мінскім перыядзе жыцця М. Доўнар-Запольскага найбольш лапідарныя. Тым не менш зафіксаваныя Надзеяй Маркіянаўнай падзеі і перажыванні даюць каштоўны матэрыял для разумення грамадска-палітычнай і інтэлектуальнай сітуацыі Мінска ў эпоху беларусізацыі.

Уражанне ад сталіцы Савецкай Беларусі саступала ўспамінам пра Баку, а агульная атмасфера была неадназначнай. З аднаго боку, запісы сведчаць аб цёплым прыёме і цесных кантактах з мясцовымі дзеячамі, сярод якіх былі старыя знаёмыя Іван Краскоўскі, Аляксандр Цвікевіч, Дзмітры Даўгяла, Уладзімір Пічэта, а таксама шмат новых сяброў. Сярод маскоўскіх запісаў пад загалоўкам «успаміны пра Мінск» Надзея Маркіянаўна падала спіс з 34-х прозвішчаў. Кантакты Доўнараў — усё суквецце навуковай і творчай беларускай інтэлігенцыі: Янка Купала і Якуб Колас, Аркадзь Смоліч і Леанард Заяц, Павел Трамповіч і Паўліна Мядзёлка, Мікалай Шчакаціхін ды інш. Пры гэтым у спіс не трапіў аніводны прадстаўнік партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва БССР, нават з меркаваных ініцыятараў пераезду вучонага.

Жыццё ў Мінску пачыналася аптымістычна. Надзея Маркіянаўна пачала выкладаць ва ўніверсітэце, рэалізоўвала ўласныя творчыя захапленні і дапамагала мужу. А муж выказаў удзячнасць адмысловым запісам у кнізе «Народное хозяйство Белоруссии 1861—1914», якая выйшла ў Мінску ў 1926 г.

У той жа час у адным з маскоўскіх запісаў можна прачытаць: «Мы былі пастаянна пад наглядам». Гэта выказванне, відавочна, фіксуе не толькі кантроль з боку адпаведных органаў савецкай улады, але таксама нядобразычлівае і зайздроснае

стаўленне да Доўнар-Запольскага з боку пэўнага кола мінскай інтэлігенцыі. Менавіта ў Мінску даследчык упершыню сутыкнуўся з жорсткасцю і двуабліччам савецкай сістэмы, перад якой не ратаваў ранейшы вопыт супрацоўніцтва з уладамі. Занатаваная ў дзённіку хроніка выгнання Мітрафана Доўнар-Запольскага з Беларусі мае значэнне не толькі для вывучэння ягонай біяграфіі. Яна даносіць да чытача асабістую духоўную драму чалавека, чые выпеставаныя з маладосці патрыятычныя і асветніцкія ідэалы разбіліся аб практыку іх савецкага ўвасаблення.

Дзённік Надзеі Маркіянаўны дапамагае рэканструяваць апошні, маскоўскі, перыяд біяграфіі даследчыка. Запісы зноў фіксуюць вялікую прагу да жыцця і працы ўжо немаладога і спазнаўшага новую траўму дзеяча. Аўтарка фармулюе жыццёвы прынцып М. Доўнар-Запольскага — «гарэць сярод тысячы справаў». Аднак тэкст паступова падводзіць да высновы, што патэнцыял вучонага не мог быць рэалізаваным ва ўмовах разгортвання рэпрэсій супраць інтэлігенцыі.

Як і раней, дзённік абыходзіць маўчаннем палітычна абвостраны кантэкст. Напрыклад, не згадваюцца падзеі, звязаныя са «Справай акадэміка С. Платонава», у выніку якой была разгромлена дарэвалюцыйная гістарычная школа, а рэпрэсіі закранулі даследчыцкае кола, да якога належаў таксама М. Доўнар-Запольскі. Успаміны не дапамагаюць адказаць на пытанне, як яму ўдалося пазбегнуць абвінавачанняў, пры тым што небяспека была вельмі сур'ёзнай[1].

У той жа час варта звярнуць ўвагу на запісы Н. Доўнар-Запольскай пра неадступнае пачуццё трывогі, пра кнігу, даведзеную да друкарскай карэктуры, але так і не выдадзеную, пра тое, што «ў Міці нелады са службай працягваюцца». Трэба адначыць эмацыйны і жывы стыль дзённікавых запісаў, якія не пакідаюць чытача абыякавым. Гэта датычыць якраз найбольш асабістых і драматычных эпізодаў, да якіх можам аднесці апісанне абставін смерці М. Доўнар-Запольскага.

У шэрагу мемуарных згадак пра вучонага асобнае месца займаюць занатоўкі Мікалая Улашчыка ў яго успамінах пра навучанне ў БДУ. Адпаведны фрагмент з асабістага архіва гісторыка ўпершыню быў апублікаваны ў 2001 г. даследчыкамі Віталём Скалабанам і Аляксеем Каўкам у якасці ўводзінаў да біябібліяграфіі Доўнар-Запольскага[2].

Некалькі старонак, прысвечаных Мітрафану Віктаравічу Доўнар-Запольскаму, яскрава дапаўняюць асабісты партрэт вучонага і факты мінскага перыяду яго біяграфіі. Але галоўнае, што сведчанні Мікалая Улашчыка даюць падставы для ацэнкі важных сацыякультурных аспектаў беларусізацыі, дапамагаюць адказаць на пытанне, чаму не адбылася інтэграцыя навукоўцаў перадрэвалюцыйнай эпохі (Мітрафана Доўнар-Запольскага, Яўхіма Карскага, Браніслава Эпімах-Шыпілы ды інш.) у савецкую сістэму навукі і адукацыі.

Мікалай Улашчык сведчыць, што з'яўленне ва ўніверсітэце Доўнар-Запольскага выклікала ў студэнцкім асяродку асаблівую цікавасць. Але пры гэтым пра найбольш прафесійнага на той час гісторыка-беларуса студэнтам было вядома толькі тое, што «ён напісаў стос кніг і што прымаў удзел у выданні другіх… Але гэта былі нейкія

---

[1] А. Яноўскі. М.В. Доўнар-Запольскі і У.І. Пічэта: з гісторыі ўзаемаадносін у перыяд працы у БДУ // Трэція міжнародныя Доўнараўскія чытанні: Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. — Мн., Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 92—99.

[2] Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: Біябібліяграфічны паказальнік / Уклад.: В.У. Скалабан, В.М. Лебедзева і інш. — Мн.: Нац. б-ка Беларусі, 2001. — С. 11—13.

агульныя ўражанні, грунтоўна пра яго творчасць пэўна з нас, студэнтаў, ня ведаў ніхто». Гэтае прызнанне сведчыць пра разрыў духоўнай і інтэлектуальнай традыцыі пры фарміраванні першага пакалення нацыяльнай савецкай інтэлігенцыі. Творчасць і навуковыя заслугі прафесара Доўнар-Запольскага былі вядомы і ацэнены дарэвалюцыйнымі беларусазнаўцамі, але першай генерацыяй уласна беларускіх гісторыкаў ён успрымаўся як даволі абстрактны сімвал.

Прадстаўнік гэтай новай генерацыі Мікалай Улашчык, які наблізіўся да Доўнар-Запольскага праз сумесную працу ў Інбелкульце, а ў далейшым у пэўным сэнсе стаў ягоным пераемнікам у беларускай гістарыяграфіі, апісваў свае кантакты з прафесарам нейтральна-назіральна, без асаблівых эмоцый, як гэта магло быць у выпадку сустрэчы з духоўным настаўнікам.

Апрабаваная ў Кіеве мадэль фарміравання навуковай школы, якой захапляліся ранейшыя вучні Доўнар-Запольскага, аказалася непрыдатнай у Мінску. Можна меркаваць, што не толькі абмежаванасць часу, але таксама фактар сацыякультурнай дыстанцыі не дазволіў Мітрафану Віктаравічу калі не стварыць, то хаця б закласці падмуркі ўласнай навуковай школы ў Мінску.

Знаёмства з разнажанравым комплексам біяграфічных крыніцаў набліжае да асэнсавання значнасці асобы Мітрафана Доўнар-Запольскага на фоне маштабных сацыяльных, нацыянальных, інтэлектуальных катаклізмаў канца XIX — першай трэці XX ст.

* * *

Пры падрыхтоўцы рукапісных тэкстаў да выдання паўсталі складанасці, звязаныя з кепскай захаванасцю шэрагу дакументаў, неразборлівасцю почырка аўтараў, а найперш — самога М. Доўнар-Запольскага. Гэтыя акалічнасці абумовілі значную колькасць купюр у тэкстах.

Пры падрыхтоўцы да публікацыі прыняты наступныя нормы:

- — дакументы друкуюцца ў храналагічнай паслядоўнасці;
- — крыніцы пададзены на мовах арыгіналаў без перакладу. Рускамоўныя крыніцы друкуюцца адпаведна правілаў сучаснай рускай арфаграфіі, украіна- і беларускамоўныя — з захаваннем аўтэнтычнага правапісу;
- — пры выкарыстанні дакументаў і матэрыялаў, дзе былі прадстаўленыя розныя тэмы, для публікацыі адбіраліся толькі іх фрагменты, звязаныя з асобай М. Доўнар-Запольскага. Пры гэтым іншыя аспекты дакумента не пазначаліся і не каментаваліся;
- — прапушчаныя часткі тэкстаў пазначаныя квадратнымі дужкамі і шматкроп’ем;
- — нечытэльныя словы і фрагменты ўнутры тэкстаў пазначаныя трохкутнымі дужкамі і шматкроп’ем;
- — падкрэсліванні ў дакументах перадаюцца паўтлустым шрыфтам;
- — асноўны тэкстуальны каментар падаецца пастаронкава. Ён уключае ідэнтыфікацыю гістарычных фактаў, грамадскіх, біяграфічных, навуковых і гістарычных падзей, асоб, дат, устаноў, грамадскіх арганізацый, перыядычных выданняў, тлумачэнне іх кантэксту ды інш. Археаграфічныя заўвагі з’яўляюцца часткай асноўнага каментара.
- — у імянным паказальніку аўтэнтычныя адзінкі падаюцца на мове іх напісання ў арыгінальных тэкстах корпусным шрыфтам, а ўведзеныя ўкладальнікам і рэдактарамі — курсівам.

Пры падрыхтоўцы выдання выкарыстаны матэрыялы, прадстаўленыя даследчыкамі і архівістамі: Сяргеем Міхальчанкам (Бранск), Ларысай Бондар (Пецярбург), Аляксандрам Смаленчуком (Варшава), Аляксандрам Панамаровым (Кіеў), Андрэем Кіштымавым (Мінск).

За кансультацыйную дапамогу ў падрыхтоўцы выдання аўтар-укладальнік выказвае шчырую падзяку Алене Палуян (Гомель), Аксане Юрковай, Васілю Ульяноўскаму, Андрэю Чуткаму (усе Кіеў), Аляксандру Карскаму (Пецярбург), Сяргею Лепяўку (Чарнігаў), Міхаілу Шумейку (Мінск), Уладзіміру Ляхоўскаму (Мінск).

*Валянціна Мятліцкая*

## № 1
## Пасведчанне Мінскай духоўнай кансісторыі аб нараджэнні і хрышчэнні М. Доўнар-Запольскага

**г. Мінск** **22 верасня 1871 г.**

Свидетельство

По указу Его Императорского величества Минская духовная консистория сим за надлежащим подписом и приложением казенной печати удостоверяет, что в метрической книге речицкой соборной Воскресенской церкви за 1867 год под № 31 имеется следующая статья: тысяча восемьсот шестьдесят седьмого года июня второго дня родился, а 24 окрещен Митрофан, сын столоначальника[1] Речицкого уездного полицейского управления коллежского секретаря Виктора Мартинова Запольского-Довнара[2] и его законной жены Александры Станиславовой[3], обоих православного вероисповедания, коего крестил священник Евдоким Мигай[4] с пономарем Иваном Бирюковичем, воспреемниками были: начальник Речицкого жандармского управления майор Михаил Стефанов Федоров[5] и жена Речицкого уездного судьи надворного советника Лисенка Елизавета Ивановна.

Протоиерей Лавр Подольский[6]

Секретарь Н. Корнилов

Столоначальник <…>

ДАК. Ф. 16, воп. 340, спр. 107, л. 6.

## № 2
## Пасведчанне Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб далучэнні М. Доўнар-Запольскага да дваранства

**г. Мінск** **5 снежня 1874 г.**

Свидетельство

По указу Его Императорского величества и по справкам в делах дано сие свидетельство из Минского дворянского депутатского собрания Митрофану сыну Виктора

---

[1] *Столаначальнік* — начальнік канцылярыі.

[2] **Доўнар-Запольскі Віктар Марцінавіч** (1827—?), бацька М. Доўнар-Запольскага, прадстаўнік шляхецкага роду, вядомага з XVI ст. Атрымаў хатнюю адукацыю, з 1850 г. — пісар сярэдняга разраду Рэчыцкага павятовага суда. Пасля падаўлення паўстання 1863 г. перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе.

[3] **Доўнар-Запольская** (дзяв. **Ліндахер**) **Аляксандра Станіславаўна** (?—?), маці М. В. Доўнар-Запольскага. Дваранскі род Ліндахераў ні ў беларускіх, ні ў прыбалтыйскіх губернях на той час не адзначаецца.

[4] **Мігай Еўдакім** (?—?), прадстаўнік вядомага святарскага роду на беларускім Палессі.

[5] **Фёдараў Міхаіл Стэфанавіч** (?—?), начальнік Рэчыцкага і Бабруйскага павятовых жандарскіх праўленняў з 1869 г., узнагароджаны медалямі «У памяць вайны 1853—1856 гг.» і «У гонар уціхамірвання польскага мяцяжу 1863 г.»

[6] **Падольскі Лаўрэн Сцяпанавіч** (?—?), пратаіерэй Мінскага кафедральнага сабора, сябар праўлення Мінскай духоўнай семінарыі, мінскага Мікалаеўскага брацтва, узнагароджаны медалямі «У памяць вайны 1853—1856 гг.» і «У гонар уціхамірвання польскага мяцяжу 1863 г.»

Мартиновича Запольскому-Довнару, родившемуся и крещеному 1867 года июня 2/24 числа в том, что он Митрофан Запольский-Довнар определением сего собрания 11 ноября сего 1874 года состоявшегося, сопричеслен к роду Запольских-Довнаров окончательно утвержденному в дворянском достоинстве указом Правительствующего сената по герольдии от 29 марта 1843 года за № 4945. В сие собрание представлен со внесением в шестую часть[1] родословной Книги дворян Минской губернии, следовательно на основании 65 ст[атьи]: 1х: m: Св[ода] зак[онов] р (изб. 1857 г.:), а также высочайше конфирмованного в 2 день января 1861 года мнения Государственного совета, и 6-го пункта Высочайшего повеления 23 сентября 1864 года вышеозначенный Митрофан Викторов Запольский-Довнар считается окончательно утвержденным в потомственном дворянском достоинстве. Во уверение чего и выдано сие свидетельство за надлежащим подписанием и приложением казенной печати.

Минский губернский предводитель дворянства,
дворянского депутатского собрания,
действительный статский советник,
кавалер, Прошинский[2]

ДАК. Ф. 16, воп. 340, спр. 107, л. 7.

## № 3
## З пасведчання Мазырскай прагімназіі аб вучобе М. Доўнар-Запольскага

**г. Мазыр** **5 жніўня 1885 г.**

Свидетельство

Представитель сего бывший ученик **шестого** класса Мозырской шестиклассной прогимназии **Довнар Митрофан** из **дворян**, **православного** вероисповедания, имеющий **18 лет** отроду поступил **11 августа** 1880 г. из **второго класса Минской Гимназии во втор[ой]** класс Мозырской прогимназии.

За все это время поведения был **отличного**, а в преподаваемых по уставу предметах оказал успехи:

| | |
|---|---|
| В Законе Божием | отличные (5) |
| Русской словесности в языках: | |
| русском — удовлетворительные (3) | хорошие (4) |
| церковно-славянском | хорошие (4) |
| латинском — хорошие (4) | удовлетворительные (3) |
| греческий — удовлетворительные (3) | не вполне удовлетворительные (2) |
| | удовлетворительные (3) |
| французский — хорошие (4) | хорошие (4) |

---

[1] У *шостую частку радаводнай кнігі* ўносіліся прадстаўнікі старажытнага спадчыннага дваранства.

[2] **Прашынскі Яўстафій Станіслававіч** (1798 — пасля 1877), землеўладальнік, прадстаўнік мясцовага каталіцкага роду, правадзейны стацкі дарадца. У 1820—1856 гг. займаў пасады ў губернскім судзе і землеўладкаванні, удзельнічаў у адмене прыгону ў Мінскай губ., Мінскі прадвадзіцель дваранства (1863—1877), удзельнічаў у падаўленні паўстання 1863 г.

| | |
|---|---|
| В арифметике: | хорошие (4) |
| алгебре — хорошие (4) | удовлетворительные (3) |
| геометрии — хорошие (4) | не вполне удовлетворительные (2) |
| физике — хорошие (4) | удовлетворительные (3) |
| истории — хорошие (4) | хорошие (4) |
| | хорошие (4) |
| Географии — | удовлетворительные (3) |
| Чистописании — | хорошие (4) |
| Рисовании — | хорошие (4) |

1885 года июня 18-го дня выбыл он из VI класса по прошению <…>.

Директор Мозырской прогимназии Дедов[1]

Письмоводитель Яхимович[2]

ДАК. Ф. 108, воп. 91, спр. 461, л. 22,

## № 4
## Прашэнне студэнта Кіеўскага ўніверсітэта Ф. Бурчака[3] да дырэктара Кіеўскай першай гімназіі[4] А. Андрыяшава[5] аб прыёме ў гімназію М. Доўнар-Запольскага

**г. Кіеў** **12 верасня 1885 г.,**

Его Превосходительству
господину директору
Киевской Первой гимназии
Студента Федора Бурчака

Прошение

Желая по поручению родителей перевести племянника моего Митрофана Довнар-Запольского из III Мозырской Прогимназии в VI кл. вверенной Вам гимназии, честь имею покорнейше [просить] об этом Вашего распоряжения. Причина перевода та, что отец его переезжает в Киев на жительство и, будучи человеком несостоятельным, он не может держать сына в другом от себя городе. Сделавшись же

---

[1] **Дзедаў Аляксандр Глебавіч** (1847—1915), выхадзец з духоўнага стану, правадзейны стацкі дарадца, дырэктар Мазырскай прагімназіі ў 1880-я гг.

[2] **Яхімовіч Іван Данілавіч** (?—?), іншых звестак пакуль знайсці не ўдалося.

[3] **Бурчак Фёдар Сцяпанавіч** (1863 — пасля 1926), медык, грамадскі дзеяч, лекар кіеўскага аддзялення Дзяржаўнага банка. З 1902 г. — галосны Кіеўскай гарадской думы, сябар Таварыства хуткай дапамогі, выконваючы абавязкі кіеўскага гарадскога галавы ў 1916—1917 гг., у 1918 г. — актыўны ўдзельнік беларускага руху ў Кіеве, у 1920-я гг. — старшыня праўлення Таварыства ўзаемнага крэдыту УССР. На час напісання ліста — студэнт медычнага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта.

[4] *Кіеўская першая мужчынская гімназія* заснавана ў 1809 г., асобым уставам у 1811 г. была аднесена да вышэйшых навучальных устаноў. Самая прэстыжная гімназія Кіева, сярод выкладчыкаў былі прафесары Кіеўскага ўніверсітэта, Кіеўскай духоўнай акадэміі ды інш.

[5] **Андрыяшаў Аляксей Фаміч** (1826—1907), педагог, мецэнат і грамадскі дзеяч, заснавальнік кіеўскай «Школы практычнага пчалярства», рэдактар «Киевского народного календаря», выдавец газеты «Друг народа», дырэктар Кіеўскай першай мужчынскай гімназіі (1862—1890).

жителем гор. Киева, он получает перед другими преимущественное право просить о зачислении своего сына в Киевскую гимназию. Что касается того, что означенный Довнар-Запольский переводится в сентябре, то это по той причине, что он был болен. Свидетельство доктора и фельдшера, исследовавшего его во время 3 недель, будут представлены через неделю, потому что выданы в деревне, сообщение с которой очень затруднительно. От себя же я имею честь присовокупить, что я сам во время отсутствия доктора или фельдшера лечил его, так как слушал медицинские науки.

Обращая внимание Вашего Превосходительства на свидетельство, данное Мозырской Прогимназии, присовокуплю, что он, Митрофан Довнар-Запольский во все продолжение курса учения в Мозырской Прогимназии был чаще хорошим учеником, и поведения, внимания и прилежания отличного.

Если понадобятся еще какие-либо объяснения, то прошу покорнейше просить их у меня.

При этом прилагаю свидетельства Метрические Мозырской Прогимназии о причислении к дворянству и воинскому призывному участку.

Федор Бурчак

Киев, 12 сентября 1885 г.
Живу на Владимирской улице, д. № 28

ДАК. Ф. 108, воп. 91, спр. 461, л. 20—21.

## № 5
## Прашэнне І. Кіціцына[1] да дырэктара Кіеўскай першай гімназіі А. Андрыяшава пра апеку над вучнем М. Доўнар-Запольскім

**г. Кіеў** **8 лютага 1886 г.**

Его Превосходительству г[осподи]ну директору
1-й Киевской Классической гимназии
Запасного подпоручика,
помощника пристава Киевского Окружного суда
Ивана Ивановича Китицина

Прошение

Имею честь покорнейше просить Ваше Превосходительство разрешить мне взять на мою полную ответственность ученика 6-го класса вверенной Вам гимназии, Довнара-Запольского, которому я прихожусь родственником (двоюродный брат его матери) и представить ему, Довнару, право жить со мной на одной квартире.

Мой адрес: Мало-Владимирская улица. Дом 47, Чайковской.

Запасной подпоручик Иван Китицин

*Рэзалюцыя:* разрешить[2]

ДАК. Ф. 108, воп. 91, спр. 461, л. 19.

---

[1] Іншых звестак знайсці не ўдалося.
[2] Напісана ад рукі ў канцы дакумента.

## № 6
## Прашэнне В. Доўнар-Запольскага да дырэктара Кіеўскай першай гімназіі А. Андрыяшава аб дазволе на выезд сына ў Балгарыю

**г. Мазыр** **8 мая 1886 г.**

Его Превосходительству директору
Киевской Первой гимназии
Дворянина Виктора Мартиновича
Довнара-Запольского

Прошение

Вашего превосходительства имею честь всепокорнейше просить сыну моему ученику Киевской I Гимназии 6 класса II отделения Митрофану Викторовичу Довнару-Запольскому позволить поехать в Восточную Румелию[1]для свидания с матерью, ввиду того, что она находится в болезненном состоянии, а равно и с уважения того, что мать хочет видеть сына, давно его невидавшего[2].

Май 8 дня 1886 г.

Прошение это доверяю подать сыну моему Митрофану Довнару-Запольскому.
Нотариально заверено Мозырским нотариусом.

ДАК. Ф. 108, воп. 93, спр. 461, л. 9.

## № 7
## Кандуіцкі спіс вучня Кіеўскай першай гімназіі М. Доўнар-Запольскага

**г. Кіеў** **люты 1887 г.**

Кондуитский список
ученика Киевской первой гимназии

Запольский-Довнар Митрофан Викторов
Сын *дворянина*
Родился *2-го июня 1867 г.*
Вероисповедания *православного*
Поступил в Киевскую Первую гимназию *9-го октября 1885 года из Мозырской прогимназии, в которой состоял учеником с 1880 по 1885 г., и до этого был в Минской гимназии.*

Прохождение по классам в Мозырской прогимназии

| Классы | Приготови-т[ельный] | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-й год в классе | | | 1880/1 | 1881/2 | 1882/3 | 1883/4 | 1884/5 | | |
| 2-й год в классе | | | | | | | 1885/6 | | |

[1] Усходняя Румелія, аўтаномная турэцкая правінцыя з 1878 па 1908 гг., з 1885 г. пад фактычным кантролем Балгарыі. Цэнтр правінцыі — г. Філіпопаль.
[2] Так у тэксце.

| | | **Кондуитские записи в бытность его в Мозырской прогимназии** | Распоряжения |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **1880** учебный год | | | |
| сентябрь | 9 | Разговор во время урока немецкого языка | Арест 1 час |
| октябрь | 13 | Не был в церкви. | Арест 1 час |
| | 23 | Драка с учениками | Арест 1,5 часа |
| декабрь | — | Шалость во время перемены. | Поведение «4» и выговор перед классом |
| **1881** февраль | — | Частые оспаривания отметок с учителем немецкого языка. | Поведение «4» и выговор, и письмо родителям |
| **1887** февраль | 13 | Опоздал на урок физики | Арест 2 часа |
| март | 4 | Невнимание во время урока. | Лишен слова во время урока |
| | 11 | Не стал на место по приглашению помощника классного наставника. | Арест 1 час |
| | 21 | Ленность (незнание урока латинского языка). | Арест 1 час и выучить урок |
| июнь | 24 | Поведение 5. Самовольный уход из прогимназии и пропуск урока, занятого другим преподавателем. | Арест 1 час |
| 1883 март | 12 | Катанье в лодке. | Арест 4 часа |
| октябрь | 9 | За уклонение в посещении церковного богослужения. | Выговор директора с уменьшением балла по поведению |
| ноябрь | 9 | Поведение 5.<br>Был без разрешения на вечере у своего товарища и оставался до 12 час[ов]. | Оставлен на 1 час после уроков |
| 1884 май | 4 | За опоздание на уроки. | Выговор классного наставника |
| | 6 | За постоянное непосещение богослужения без уважительной причины. | Арест 4 часа<br><…> |
| | | На 5 минут опоздал на урок<br>Ходит в цветной рубахе. | Выговор |
| | | Замечания о характере, наклонностях и способностях ученика Мозырской Прогимназии. | |
| | | Самонадеян, считает себя развитым, но не понятым. В религиозном отношении требует особого наблюдения. | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | [Постороннее?] влияние, невнимание со стороны родителей заставляет меня просить г. Классного наставника обратить на Довнара особое внимание и обстоятельно записывать в кондуит все, касающееся его поведения. | |
| | | В характере Довнара в начале года мною действительно замечена самонадеянность, но затем, в силу тех или других обстоятельств, где он видел свою слабость и несостоятельность, в характере его стали проглядывать скромность и сдержанность. Особых наклонностей к чему-либо не замечено, кроме наклонности к пустому фразерству. Способности хорошие.<br>Подписал директор Мозырской Прогимназии Дедов | |
| | | 1885/6 учебный год.<br>Киевская Первая гимназия | |
| октябрь | 21 | Ранец нес не на плечах | Сделано перед классом строгое внушение к[лассным] н[аставником] |
| декабрь | 17 | Болен | |
| | 18 | Также | |
| 1886 январь | 22 и 23 | Болен | |
| февраль | 1 | Также | |
| | 7 | Также | |
| март | 19 | Болен | |
| 1887 февраль | 13 | Опоздал на урок физики | Арест 2 часа |

ДАК. Ф. 108, воп. 91, спр. 461, л. 32, 33.

## № 8
## Рапарт інспектара Кіеўскай першай гімназіі А. Старкова[1] пра інспекцыю кватэры гімназіста М. Доўнар-Запольскага

**г. Кіеў** **1 сакавіка 1888 г.**

Конфиденциально.
Его превосходительству
господину директору
Киевской 1-й гимназии
Инспектора той же гимназии
Алексея Старкова

Рапорт

Февраля 28 дня сего года, посещая вместе с помощником классного наставника Семеновским[2] как ученические квартиры, так и некоторых отдельно живущих учеников в качестве репетиторов, я посетил и ученика VIII класса 2 отделения Довнар-Запольского, живущего у г-жи Веселовской в качестве репетитора сына ее, учащегося 3-й Киевской гимназии. При тщательном осмотре всех книг и записок, находившихся в комнате, я нашел следующие:

a) Письмо Н. И. Костомарова[3] к издателю «Колокола» с предисловием М. Драгоманова[4]. Издательство «Громады». Женева. 1885 год[5].

b) Мария — поэма Т. Шевченка[6] с предисловием и замечаниями М. Драгоманова. Женева. Типография «Громады». 1885 год.

c) «Громада» — сборник украинский М. Драгоманова. Женева.

d) Сборник № 32 различных статей

e) Основа — южно-русский литературный вестник[7]. Январь 1861 г.

g) Речь Цицерона за Анния Милона[8] (рукопись) — находилась в упомянутых книгах, а равно и прилагаемая программа по статистике.

Все вышеуказанные книги и рукописи при сем прилагаются.

Инспектор А. Старков

ДАК. Ф. 108, воп. 93, спр. 461, л. 29.

---

[1] **Старкоў Аляксей Васільевіч** (?—?), стацкі дарадца, інспектар Кіеўскай першай мужчынскай гімназіі.

[2] **Семяноўскі Іван Васільевіч** (?—?), тытулярны дарадца, памочнік класнага настаўніка Кіеўскай першай мужчынскай гімназіі.

[3] **Кастамараў Мікалай Іванавіч** (1817—1885), гісторык і этнограф, прафесар Кіеўскага і Пецярбургскага ўніверсітэтаў, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук, сябар Пецярбургскай археаграфічнай камісіі, рэдактар 1—12 тт. выдання «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией». (СПб., 1861—1882).

[4] **Драгаманаў Міхайла Пятровіч** (1841—1895), украінскі публіцыст, гісторык, філосаф, эканаміст, літаратуразнаўца, фалькларыст, грамадскі дзеяч.

[5] *«Колокол»* — першая расійская рэвалюцыйна-дэмакратычная газета, якая выдавалася А. Герцэнам і М. Агаровым у Лондане і Жэневе ў 1857—1867 гг. Ліст М. Кастамарава, надрукаваны 15 студзеня 1860 г., быў падзякай рэдакцыі за пазіцыю прызнання ўкраінцаў як самастойнага народу і меў праграмны характар. Передрукаваны ва ўкраінскім грамадска-палітычным і навуковалітаратурным зборніку *«Громада»*, які выдаваўся ў Жэневе М. Драгаманавым у 1878—1882 гг.

[6] **Шаўчэнка Тарас** (1814—1861), класік украінскай літаратуры, мастак, грамадскі дзеяч.

[7] *«Основа»* — украінскі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаваўся ў Пецярбургу ў 1861—1862 гг. пад рэд. В. Белазёрскага з удзелам М. Кастамарава і П. Куліша.

[8] **Цыцэрон Марк Тулій** (106—43 гг. да н. э.), старажытнарымскі філосаф, палітык і аратар. Яго прамова *«За Милона»* — прызнаны ўзор аратарскага майстэрства.

мика Е. Карского и представителя Народного секретариата БНР И. Воронко. Карский представил свой проект устава и сметы университета, которые, по его словам, будут рассмотрены в минском губернском земстве и городском самоуправлении. Соответствующий доклад-ходатайство послан командующему 10-й [немецкой] армии. По мнению участников совещания, университет должен быть открыт еще в 1918 г.

## № 87
## Паведамленне[1] Народнага Сакратарыята БНР аб уключэнні М. Доўнар-Запольскага ў склад Асобай гандлёва-эканамічнай камісіі ва Украіне

**г. Мінск** **20 лістапада 1918 г.**

В Министерство иностранных дел
Украинской Державы

Народный Секретариат Белорусской Народной Республики честь имеет настоящим сообщить, что им назначена Особая торгово-экономическая комиссия на Украине[2] в составе профессора М. В. Довнар-Запольского, И. И. Красковского и А. И. Цвикевича, коей поручено вступить с Министерством торговли и промышленности Украины в переговоры о более тесном экономическом сближении между Белоруссией и Украиной и об обновлении между указанными державами товарообмена.

Означенная Комиссия является высшим торгово-экономическим органом Белорусского правительства на Украине, коему подчинены все белорусские торгово-экономические учреждения, находящиеся на территории Украины.

Кроме того, комиссия уполномочена заключить и подписать с Министерством торговли и промышленности особый договор о товарообмене на началах взаимности.

Содержание означенной бумаги просим сообщить Министерству торговли и промышленности.

Председатель Народного Секретариата
и Народный секретарь иностранных дел Середа

Народный секретарь торговли и промышленности

Народный секретарь финансов[3].

ЦДАВОВУ. Ф. 3766, воп. 1, спр. 139, л. 35.

---

[1] На бланку Народнага сакратарыяту БНР.

[2] Украінскі бок неаднаразова выказваў незадавальненне працай Беларускай гандлёвай палаты, якую адмовіўся афіцыйна рэгістраваць. Утварэнне Асобай гандлёва-эканамічнай камісіі ва Украіне — спроба рэарганізацыі БГП. Камісія ўдзельнічала ў распрацоўцы праекта новага беларуска-ўкраінскага знешнегандлёвага пагаднення, але ён так і не быў рэалізаваны.

[3] Астатнія подпісы адсутнічаюць.

## № 88
## З пратакола пасяджэння Рады народных міністраў БНР аб запрашэнні М. Доўнар-Запольскага на пасаду міністра фінансаў

**г. Берлін** **22 мая 1919 г.**

Слухалі:

Заяву п. В. Захарко аб тым, каб яго звольнілі ад абавязкаў кіравання грашовымі справамі (заява далучаецца).

Пастанавілі:

а) Міністра без портфэлю п. Захарко асвабадзіць ад заведываньня міністэрствам фінансаў з момэнту прыняцьця гэтага міністэрства новай асобай.

б). Запрасіць на пост кіраўніка міністэрства фінансаў праф[есара] Доўнар-Запольскага[1].

Архівы БНР. Т. 1, кн. 1, с. 349—350.

## № 89
## Тэлеграма А. Луцкевіча[2] аб запрашэнні М. Доўнар-Запольскага ў Берлін

**г. Берлін** **май 1919 г.**

Берлін, Прадстаўніцтва БНР.

Пільна. Украінскаму паслу Славінскаму[3]. Гатэль Цэнтральнай Рады. Доктару Раману Стоцкаму[4].

Я прашу перадаці прафесару Доўнар-Запольскаму, Бібікаў бульвар 36, што ён мусіць зараз прыехаць у Берлін[5]. Патрэбна з ім перагаварыці аб вельмі важных эканамічных справах Рэспублікі. Прашу памагчы <…> пры яго ад’ездзе.

Луцкевіч

ДАРФ. Ф. 5782, воп. 2, спр. 18, л. 147.

---

[1] Прапанова не здзейснілася, бо М. Доўнар-Запольскі знаходзіўся ў Новачаркаску і быў адрэзаны ад беларускіх цэнтраў франтамі Грамадзянскай вайны.

[2] **Луцкевіч Антон Іванавіч** (1884—1942), адзін з лідэраў беларускага нацыянальнага руху, грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, мовазнаўца, выдавец. Старшыня Віленскай беларускай рады, сябар Рады БНР. З 1920 г. — у Вільні. Арыштаваны органамі НКУС у верасні 1939 г., памёр у лагеры.

[3] **Славінскі Максім Антонавіч** (1868—1945), украінскі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, у 1919 г. — старшыня ўкраінскай дыпламатычнай місіі ў Празе, застаўся ў эміграцыі.

[4] **Стоцкі Раман Сцяпанавіч** (1893—1969), украінскі мовазнаўца і палітычны дзеяч, дыпламат, надзвычайны пасол УНР у Берліне (1921—1923), застаўся ў эміграцыі.

[5] У канцы сакавіка 1919 г. А. Луцкевіч і некаторыя члены ўраду БНР выехалі ў Берлін, каб дабівацца ўдзелу дэлегацыі БНР у Парыжскай мірнай канферэнцыі. Хутчэй за ўсё, М. Доўнар-Запольскі запрашаўся для дапамогі ў гэтай справе.

## № 90
## З ліста В. Захаркі да А. Луцкевіча аб запрашэнні М. Доўнар-Запольскага ў Берлін

**г. Берлін** **5 верасня 1919 г.**

[…] Калі спартакі[1] не паравернуць усё ўверх нагамі, то з пэўнасьцю можна сказаць, што тут, а ні гдзе у другом мейсцы, зложыцца цэнтр васточнае палітыкі. Калі гэто будзе так, то нам трэба мець тут моцнаго і атпаведнаго ва ўсіх напрамках, сваго дыпламатычнаго прэдстаўніка. […]

P. S. Не аткажыце вызваць Даўнар-Запольскага, альбо знайсці падобнага яму.

Архівы БНР. Т. 1, кн. 1, с. 428.

## № 91
## З публікацыі часопіса «Полымя»[2] пра прыезд М. Доўнар-Запольскага і Д. Даўгялы на працу ў Мінск

**чэрвень 1925 г.**

У звязку з пераездам у Менск на сталую працу ў І[нстытут] Б[еларускай] К[ультуры][3] проф[эсара] М. В. Доўнар-Запольскага і археографістага Д. І. Даўгялы распачала сваю працу гістарычна-археолёгічная комісія ІБК. Перад апрацаваньнем пляну яе дзейнасьці на наступны год было прызнана патрэбным, каб абодва вучоныя азнаёміліся з архівамі і музэямі Віцебску, Смаленску, Магілёва і Кіеву. Ім дадзена дзеля гэтага адпаведная камандыроўка.

«Полымя» 1925 г., № 6, с. 209.

---

[1] Маецца на ўвазе нямецкая левагадыкальная пракамуністычная група *«Саюз Спартака»*. У лісце паведамляецца пра расстаноўку міжнародных сіл у Еўропе, роль Германіі і магчымасць антыбальшавіцкага саюза Англіі і Францыі.

[2] *«Полымя»* — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны штомесячнік, найстарэйшае беларускае літаратурна-мастацкае выданне, выходзіла са снежня 1922 г. у Мінску.

[3] *Інстытут беларускай культуры* (Інбелкульт) — вышэйшая шматгаліновая навукова-даследчая ўстанова, першая ў гісторыі Беларусі. Заснаваны 30 студзеня 1922 г. у Мінску, у 1928 г. пераўтвораны ў Беларускую Акадэмію навук (БелАН). У 1924 г. канчаткова сфарміравалася структура інстытута: камісіі гісторыка-археалагічная, этнаграфіі і геаграфіі, мастацтва, права, педагогікі, медыка-ветэрынарная, сацыяльна-эканамічная, па вывучэнні прыродных прадукцыйных сіл Беларусі. Згодна з новым статутам, адбылося вылучэнне Інбелкульта са структуры Народнага камісарыяту асветы ў самастойную ўстанову. Інбелкульт набыў права адчыняць бібліятэкі, музеі, друкарні, даследчыя станцыі, ствараць архівы, арганізоўваць навуковыя экспедыцыі, праводзіць канферэнцыі і з'езды, наладжваць кантакты з замежнымі даследчымі ўстановамі. Пры фарміраванні Гісторыка-археалагічнай камісіі ўзніклі праблемы яе камплектавання высокакваліфікаванымі спецыялістамі. У 1924 г. М. Доўнар-Запольскі завочна быў абраны правадзейным членам Інстытута, а надалей былі актывізаваны захады па яго запрашэнні ў Беларусь, якія ўрэшце закончыліся згодай.

## № 92
## Выпіска з пратакола пасяджэння Савета Народных камісараў БССР аб арганізацыі пераезду М. Доўнар-Запольскага ў Мінск

**г. Мінск** **25 ліпеня 1925 г.**

Протокол № 20.

[…] СЛУШАЛИ. Об отпуске средств в распоряжение Госплана для перевоза в БССР проф[ессора] Довнар-Запольского и перевоза его библиотеки (вн[ес] Госплан), (докл[адчик] т. Карп[1]).

ПОСТАНОВИЛИ. Отпустить в распоряжение Госплана из резервного фонда СНК 1 000 (одну тысячу) руб. для переезда в БССР проф[ессора] Довнар-Запольского и перевода его библиотеки. […]

НАРБ. Ф. 7, воп. 1, спр. 188, л. 2, 4.

## № 93
## Паслужны спіс прафесара Беларускага ўніверсітэта М. Доўнар-Запольскага, пададзены ў БДУ[2]

**г. Мінск** **жнівень 1925 г.**

Служебный список

Сотрудника Белорусского государственного Университета

А. Регистрационная анкета.

1. Фамилия *Довнар-Запольский*
2. Имя *Митрофан*
3. Отчество *Викторович*
4. Точный адрес *Революционная, 21*
5. Время рождения *1867*
6. Место рождения *Речица Минской г.*
7. Национальность *белорус*
8. Родной язык *белорусский*
9. Происхождение (сословие) *безземельная шляхта*
10. Семейное положение *женат*
11. Состав семьи и место ее пребывания *жена и дочь в Минске*

Владеет ли землей, домом, промышленным или торговым предприятием, где и каким (если владеет землей, то в каком размере) —

12. Образование общее (подробно указать окончание низшей и средней школы) —

14. Образование высшее (подробно указать время окончания) *1894 г.*

15. Специальность *доктор русской истории*

16. На каких языках, кроме родного, говорит, читает, пишет (указать подробно) *русский, фран[цузский], немецкий*

---

[1] **Карп Сяргей Бенядзіктавіч** (1892—1937), беларускі дзяржаўны дзеяч, у 1925—1929 гг. — намеснік старшыні СНК БССР, адначасова да 1927 г. — старшыня Дзяржплана. Арыштаваны органамі НКУС у 1937 г., расстраляны.

[2] Друкаваны бланк, запоўнены рукой М. Доўнар-Запольскага

17. Прежнее занятие: а) до октябрьской революции, б) после октябрьской революции *профессура*

18. Учебная специальность (отрасль, предмет преподавания) *история и хозяйство*

19. Какими техническими и практическими навыками обладает, и где работал (ручной труд, рисование, искусство, сельское хозяйство, земледельчество) *в детстве был в ремесленной мастерской*

20. Прежняя учебная и научная деятельность (подробный перечень ученых и учебных учреждений, комиссии, экспедиции, и т. п., в которых работал, и в чем эта работа выражалась) *профессура и советская служба*

21. В каких ученых обществах и комиссиях участвовал или участвует *во многих*

22. Какие имеются научные или литературные труды. *См. на обложке какой-нибудь из моих последних книг. Напр., «Русский вывоз и мировой рынок»*

23. Имеет ли ученую степень, какую именно, с какого времени (указать учреждение, при котором защищал диссертацию, на какую тему) — *доктор рус[ской] истории с 1905 г., Киевский Университет*

24. Занимал когда-нибудь выборные должности (где и когда) — *во многих ученых обществах*

25. Отношение к воинской повинности (где служил и в каких чинах). Если не годен, то по какой статье освобожден и каким учреждением, по какому документу (№ и дата) — *не служил*

26. Состоял ли в профессиональном союзе, в каком именно и с какого времени, № членского билета — *Союз-Рабпрос с 1917 г.*

27. Сочувствует или принадлежит к какой либо политической партии, к какой именно и с какого времени (№ членского билета) — *внепартийный марксист.*

Довнар-Запольский

Пасьведчанне атрымаў 6.5.26. Довнар-Запольский[1]

НАРБ. Ф. 205, воп. 3, спр. 2549, л. 1.

## № 94
## Выпіска з пратакола пасяджэння Прэзідыума Інстытута беларускай культуры аб працы М. Доўнар-Запольскага і Д. Даўгялы

**г. Мінск** **1 верасня 1925 г.**

Пратакол № 26

[…] 2. СЛУХАЛІ: Прапазіцыя праф[есара] Доўнар-Запольскага для надрукавання і выкарыстання у працы ІБК этнаграфічных, лінгвістычных і геаграфічных дадзеных, якія маюцца ў архівах акадэміі навук і былога Геаграфічнага таварыства ў Ленінградзе.

ПАСТАНАВІЛІ: Прызнаючы гэта вельмі патрэбным і каштоўным для працы ІБК, павясці належныя перамаўленьні з Акадэміяй і Географічным таварыствам[2].

---

[1] Прыпісана на полі дакумента

[2] 27 ліпеня 1925 г. былая Расійская акадэмія навук была рэарганізавана ў «вышэйшую ўсесаюзную навуковую ўстанову» — Акадэмію навук СССР. Расійскае геаграфічнае таварыства захавала сваю назву і дзейнасць пасля 1917 г.

3. СЛУХАЛІ: Аб прыбыўшых, згодна запрашэння Інбелкульту для навуковай працы ў Гіст[орыка]-арх[еалагічнай] камісіі праф[есара] Доўнара-Запольскага і т. Даўгялы Зьм[ітра][1].

ПАСТАНАВІЛІ: Лічыць прыступіўшымі да навуковай працы у Гіст[орыка]-арх[еалагічнай] кам[ісіі] праф[есара] Доўнар-Запольскага М.В. на пасадзе старшыні камісіі з 1-га жніўня і т. Даўгяло Зм[ітра] на пасадзе навуковага сэкрэтара камісіі з 1 верасьня з прызначэннем першаму пэнсіі 200 р. у месяц, а другому 125 руб. у месяц.

5. СЛУХАЛІ: Навуковыя камандыроўкі проф[есара] Доўнар-Запольскага і Д. Даўгялы

ПАСТАНАВІЛІ: Прызнаць патрэбным перад пачаткам працы Гіст[орыка]-арх[еалагічнай] кам[ісіі] з мэтай зьбірання архіўнага матар'ялу да выдання зборніка 1905 г.[2] камандыраваць ад імя ІБК у Смаленск, Магілеў і Віцебск памянёных асоб для азнаямлення з архівамі, музеямі. […]

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 211.

## № 95
## Дакладная М. Доўнар-Запольскага ў Прэзідыум Інбелкульта аб публікацыі «Метрыкі ВКЛ»

**г. Мінск** **8 кастрычніка 1925 г.**

Даклад Гісторыка-Археолёгічн[ай] Камісіі
аб выданні ў друку «Мэтрыкі Літоўскай»

Гістарычна-археолёгічная камісія Інбелкульту зварочваецца ў Прэзідыум з прапазіцыяй аб тым, каб ён абмеркаваў і ўзяў на сябе ініцыятыву ў правядзенні такога вялізарнага і надзвычайна неабходнага мерапрыемства ў справе выучэньня Беларускай гісторыі, якім з'яўляецца працяг выданьня «Мэтрыкі Літоўскай», распачатага б[ылой] Археографічнай камісіяй у Ленінградзе[3].

Названая Археографічная камісія вельмі невялікую ўвагу зварочвала на беларускую гісторыю. Тым ня менш, калі перад ёй было пастаўлена адпаведнае пытаньне, то Камісія не адмовілася ад таго, каб узяць на сябе грандзіознейшае прадпрыемства ў справе выдавецтва дакументаў — выданьне кніг «Мэтрыкі Літоўскай». Археографічнай камісіяй выдадзена тры томы мэтрыкі, прыблізна па 600 старонак кожны, у дзве калёнкі дробнага шрыфту. І на гэтым выдавецтва спынілася ў 1916 г. за адсутнасцю крэдытаў на працяг гэтага выданьня. Зразумела, і ў цяперашні час ніводная установа РСФСР не прыйме на сябе працы і расходаў на прадаўжэньне гэтага выданьня. Яно пагэтаму павінна легчы на сродкі Беларускай дзяржавы і павінна быць выпаўнена беларускімі вучонымі.

Мэтрыка Літоўская, асабліва для перыяду XV—XVIII ст., мае ў сабе найкаштоўнейшы гістарычны матар'ял, які служыць самай грунтоўнай крыніцай дзеля

---

[1] **Даўгяла Дзмітрый Іванавіч** (1868—1942), беларускі гісторык і архівіст, з 1925 г. — супрацоўнік Інбелкульта, дацент БДУ. Складальнік і рэдактар галоўных архіўных выданняў 1920-х гг. у БССР. Арыштаваны органамі НКУС у 1937 г., памёр у высылцы.

[2] Зборнік не быў выдадзены.

[3] Пецярбургская археаграфічная камісія ў 1918 г. была перададзена ў структуру Наркамата асветы РСФСР, з 1922 г. — у складзе Расійскай Акадэміі навук.

апрацаваньня гісторыі Беларусі. Кожнаму дасьледчыку беларускай старажытнасьці да XVIII веку добра вядома, што без скарыстаньня «Літоўскай Мэтрыкі» нельга асьветліць усякае пытаньне і што з вывучэньня гэтае крыніцы патрэбна пачынаць дасьледчую працу па гісторыі Беларусі. У той жа самы час — гэты матар'ял настолькі важны, што без яго не абыйдзецца ніводная бібліотэка ў СССР, у ва ўсіх славянскіх краёх і, часткай, за межамі іх. А гэта вызначае, што нейкая часціна выдаткаў пакрыецца з часам прадажай кніг.

Уваходзячы з гэтай прапазіцыяй у Прэзідыум Інбелкульту, Гістарычна-археолёгічная камісія лічыць неабходным наступнае:

1) Каб Прэзыдыум ІБК правёў гэтае пытаньне ў прынцыповым сэнсе праз Саўнаркам у мэтах штогодняга водпуску, пачынаючы з будучага 1926 г., сталай сумы на выданьне «Літоўскай Мэтрыкі» незалежна ад другіх каштарысных асыгнаваньняў на гістарычн[а]-археолёгічн[ыя] выданьні па Інбелкульту.

2) Камісія просіць аб дазволе і распараджэньні цяпер жа распачаць падгатоўку аднаго тому выданьня, г. зн. перапіскі і праверкі матар'ялу, а затым, калі праз некалькі месяцаў ён будзе гатовы, прыступіць да друку. Падгатоўка да друку такіх матар'ялаў, у мэтах асьцярожнасці, з якой патрэбна падыходзіць да гэтай справы, зойме ня менш аднаго году. У бягучым годзе прыйдзецца зрабіць невялічкія выдаткі па гэтай падгатоўцы да друку, а выдаткі па друку пяройдуць ужо на наступны каштарысны год.

Камісія з свайго боку прыйме ўсе меры к таму, каб гэта выданьне каштавала найтанней. Камісія без ганарару забясьпечыць яго адказнай працай і лічыць, што дзяржаве БССР прыйдзецца плаціць толькі за друкарскія расходы, перапіску арыгіналаў і паездкі дзеля праверкі іх з аўтэнтыкамі[1].

| | |
|---|---|
| Старшыня | М. Доўнар-Запольскі |
| Сэкрэтар | Дзм. Даўгяла |

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 268.

## № 96
## Дакладная М. Доўнар-Запольскага ў Прэзідыум Інстытута беларускай культуры аб рэстытуцыі беларускіх архіваў

**г. Мінск** **8 кастрычніка 1925 г.**

Даклад Гісторычна-архэолёгічнай камісіі
па пытаньню аб звароце беларускіх архіваў
(з далучэньнем перапіскі)

Пры сучасных умовах магчыма вызначыць толькі мейсцы, у якіх захоўваюцца галоўныя і самыя каштоўныя архіўныя фонды, вывезеныя ў розныя часы з Беларусі, а так сама пералічыць архіўныя матар'ялы, якія бяз супярэчнасьці павінны быць выдзялены з расейскіх архіваў, бо для апошніх не патрабуюцца матар'ялы, датычучыеся да гісторыі Беларусі.

[1] Прапанова не здзейснілася. Выданне тамоў «Метрыкі ВКЛ» у Беларусі пачалося толькі ў 2000 г.

Вызначыць з падрабязговасьцю усе мейсцы, у якіх захоўваюцца беларускія архіўныя каштоўнасьці, у цяперашні час нельга, бо шмат фондаў перадвінуты з адных мейсцаў сховы ў другія.

З боку Гіст[арычна]-арх[эолёгічнай] камісіі ІБК будуць прыняты ўсе меры к таму, штоб па магчымасьці у працягу працы зварота архіваў сьцісла высьветліць, гдзе знаходзяцца вывезеныя раней дакумэнты, а так сама даць вычарпаючы сьпіс установ, з якіх належыць атрымаць архіўныя матар'ялы.

Камісія перагледзіла прысланы на яе ўвагу спіс, зрабіла яго больш дасканальным, дапоўніла, адкінуўшы няпэўнае і не заслугуючае на ўвагу.

У цяперашні час камісія прапануе трэбаваць перадачы наступных архіваў, якія вызначаны ў далучаным сьпісу[1].

Камісія адзначае папярэднія мейсцы, дзе да рэвалюцыі знаходзіліся архівы, маючы на ўвазе, што ў цэнтральных архіўных скарбніцах Масквы і Ленінграду магчыма знайсьці спраўку аб тым, гдзе у цяперашні час знаходзяцца належныя дакументы.

Старшыня М. Доўнар-Запольскі

Сэкрэтар Дзм. Даўгяла

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 269.

## № 97
## З пастановы Народнага камісарыяту асветы БССР аб утварэнні камісіі для выяўлення беларускіх матэрыялаў у архівах РСФСР

**г. Мінск** **10 кастрычніка 1925 г.**

Пастанова № 77
Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

Аб утварэнні камісіі
дзеля выяўленьня архіўных матар'ялаў БССР у архівах РСФСР.

Паводле літ[ары] «б» пункту 285 пастановы Прэзідыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР ад 2 кастрычніка 1925 г. (пратакол 13) Народны камісарыят асьветы пастанаўляе:

Дзеля выяўлення архіўных матар'ялаў, якія належаць да БССР і знаходзяцца ў архівах РСФСР, утварыць камісію ў складзе членаў Інбелкульту:

Жылуновіча Зьмітры[2] (Старшыня)

Проф[эсара] Доўнар-Запольскага Мітрафана (нам[еснік] старшыні),

Даўгялы Зьмітры

Агурскага Самуіла[3]

---

[1] У матэрыялах архіўнай справы спіс адсутнічае.

[2] **Жылуновіч Дзмітрый Фёдаравіч (Цішка Гартны)** (1887—1937), беларускі грамадскі і дзяржаўны дзеяч, пісьменнік. У 1920-я гг. узначальваў Дзяржвыдавецтва і Цэнтральны архіў БССР, намеснік наркама асветы, член прэзідыума Інбелкульта і навуковы сакратар камісіі па вывучэнні рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Арыштаваны органамі НКУС у 1936 г., магчыма, скончыў жыццё самагубствам.

[3] **Агурскі Самуіл Хаімовіч** (1884—1947), беларускі гісторык, член-карэспандэнт БелАН, у 1924—1933 гг. на кіруючых пасадах у партыйных і навуковых установах Мінска і Масквы. Арыштаваны ў 1938 г., высланы.

Мялешкі Міхася[1] (Сэкратар)

2. Даручыць Камісіі асьведамляць НКАБ аб ходзе працы.

Нам[еснік] наркамасьветы Баліцкі[2]

Кіраўнік спраў Красінскі[3]

*Штамп:* Праф[есару] Доўнар-Запольскаму.
Зьмешчаную на адвароце гэтага выпіску
Кіраўніцтва спраў НКАБ перасылае Вам да ведама.

Кіраўнік спраў[4]

Дзелавод

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 6, л. 72.

## № 98
## Запіска М. Доўнар-Запольскага ў Народны камісарыят асветы БССР аб падрыхтоўцы гістарычных карт

**г. Мінск** **кастрычнік 1925 г.**

Методычному камітэту наркамасьветы БССР

Гісторыко-археолёгічная камісія ІБК, згодна пастанове сваёй ад 17 кастрычніка г. г. (прат. № 6, п. 6.) апрацоўвае насьценныя гістарычныя карты Беларусі для школьнага, галоўным чынам, карыстаньня ў такім складзе:

1. Пляменьні і княствы — пад кіраўніцтвам праф[есара] М.В. Доўнар-Запольскага.
2. Беларусь у складзе Вялікага княжства Літоўскага да часоў вуніі 1569 — пад кіраўніцтвам праф[есара] В.Д. Друшчыца[5].
3. Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай да першага падзелу — пад кіраўніцтвам праф[есара] В.Д. Друшчыца.
4. Беларусь у часы падзелу Рэчы Паспалітай — пад кіраўніцтвам Д.І. Даўгялы.

Паведамляючы аб гэтым, Гісторыка-археолёгічная камісія просіць аб апініі камітэту адносна вызначанага выдання.

Карты не дадаюцца да гэтага, бо яны маюцца ў існуючых друкаваных выданнях, напрыклад: першая ў выданні проф[эсара] Доўнар-Запольскага, другая ў выданні проф[эсара] Любаўскага, трэцьця ў выданні Корзана[6], чацьвёртая ў выданьні

---

[1] **Мялешка Міхась Вінцэнтавіч** (1892—1941), беларускі гісторык, адзін з заснавальнікаў архіўнай справы Беларусі, у 1925 г. — супрацоўнік Цэнтрархіва БССР, Інбелкульта. Арыштоўваўся органамі НКУС у 1930 і 1938 гг., атрымаў два тэрміны высылкі.

[2] **Баліцкі Антон Васільевіч** (1891—1937), беларускі дзяржаўны дзеяч, у 1926—1930 гг. — наркам асветы БССР. Арыштаваны органамі НКУС у 1930 г., асуджаны да лагераў. Паўторна асуджаны ў 1937 г., расстраляны ў Мінску.

[3] **Красінскі Мікола Хаміч** (?—?), кіраўнік спраў Наркамата асветы БССР, сябар Інбелкульта.

[4] Подпісы адсутнічаюць.

[5] **Дружчыц Васіль Данілавіч** (1886—1937), беларускі гісторык, прафесар БДУ, правадзейны член Інбелкульта, старшыня камісіі па гісторыі гарадоў, супрацоўнік БелАН, прафесар Літаратурнага інстытута ў Маскве. Арыштаваны органамі НКУС у 1937 г., расстраляны.

[6] **Корзан Тадэуш**, (польск. **Tadeusz Korzon**) (1839—1918), выбітны польскі гісторык, аўтар манаграфій, падручнікаў, шэрагу артыкулаў па тэорыі і методыцы гістарычнага даследавання,

Віленскай археографічнай камісіі, пятая[1] ў сучасных савецкіх выданьнях.

Вызначаныя выданьня будуць выкарыстаны дзеля ўскарэння і упрошчэньня працы, а зьмешчаныя ў іх карты здавальняюць з гістарычнага боку[2].

Старшыня Гісторыко-археолёгічнай камісіі — Доўнар-Запольскі

Навуковы сэкрэтар камісіі — Даўгяла

ЦНА НАНБ. Ф. 63, воп. 1, спр. 6, л. 57.

## № 99
## Паведамленне ў праўленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта аб уступнай лекцыі М. Доўнар-Запольскага

**г. Мінск** **24 кастрычніка 1925 г.**

У праўленне Б.Д.У.

Даводзіцца да ведама, што у панядзелак, 26.X. ад 6-50—8-20 у каб[інеце] агульнай гісторыі буд[ынка] пэдфаку па Земляробскаму завулку адбудзецца уступная лекцыя праф[есара] Доўнар-Запольскага по гісторыі Беларусі для студэнтаў II курсу літ[аратурнага], лінгв[істычнага] і грам[адска]-экан[амічнага] аддзяленняў[3].

Дэкан педагогического факультета Н.М. Никольский[4]

Секретарь педагогического факультета <…>

НАРБ. Ф. 205, воп. 3, спр. 2549, л. 4.

## № 100
## З пратакола пасяджэння Прэзідыума Інстытута беларускай культуры пра планы працы Гісторыка-археалагічнай камісіі

**г. Мінск** **3 лістапада 1925 г.**

СЛУХАЛІ: Даклад старшыні Гіст[арычна]-арх[еолёгічнай] камісіі проф[эсара] Доўнар-Запольскага. Дакладчык зазначае, што ў пляне працы камісіі на першым месцы стаіць працяг выдання Мэтрыкі Літоўскай, аб чым сэкрэтар камісіі т. Даўгяла зачытвае дакладную запіску (глядзі дадатак — дакладную запіску ад 8. X. [19]25 г. № 3). Далей дакладчык гавора аб пляне бягучай працы Гістарычна-арх[еолёгічнай]

---

па гістарыяграфіі. Галоўная праца, на якую спасылаецца М. Доўнар-Запольскі, — «Унутраная гісторыя Польшчы ў часы Станіслава-Аўгуста. 1764—1794» («Wewnętrne dzieje Polski za Stanisława-Augusta, 1764—1794»).

[1] Вышэй у дакуменце ўказаны толькі чатыры карты.

[2] Выданне не адбылося.

[3] На дакуменце — штамп і пячатка БДУ.

[4] **Нікольскі Мікалай Міхайлавіч** (1877—1959), гісторык, усходазнавец, акадэмік БелАН, член-карэспандэнт АН СССР, доктар гістарычных навук (1934), заслужаны дзеяч навукі БССР (1938).

камісіі, аб чым таксама зачытвае сэкратар камісіі т. Даўгяла дакладную запіску. Тут разлічваюцца працы 1) па археолёгіі, 2) археографіі і 3) па выданьню навуковага зборніку гістарычнага зьместу <…>.

ПАСТАНАВІЛІ: Плян працы Гістарычна-археолёгічнай камісіі ухваліць. Асабліва лічыць патрэбным прыступіць зараз жа да працягу выдання Літоўскае Мэтрыкі, што мець на ўвазе пры каштарысе на будучы год і на што таксама выдзяліць магчымыя сродкі з каштарысу на гэты год. Апроч гэтага, маючы на ўвазе незначны каштарыс ІБК і вялікую вартасць Літоўскае Мэтрыкі, унесць гэтае пытаньне ў Савет Народных камісараў Беларусі для водпуску асобных сродкаў на выданьне Літоўскае Мэтрыкі. Прапанаваць Камісіі даць падрабязную інфармацыю ў газеты аб Літоўскае Мэтрыцы […]

СЛУХАЛІ: Інфармацыю проф[эсара] Доўнар-Запольскага па справе аб перадачы беларускіх архіваў (глядзі дадатак да пратаколу — дакладную запіску Гістар[ычна]-архео[лёгічнай] камісіі ад 8. X № 4)

ПАСТАНАВІЛІ: Прымаючы пад увагу, што па справе аб звароце беларускіх архіваў створана асобная камісія з удзелам прадстаўнікоў ІБК, інфармацыю прыняць да ведама.

СЛУХАЛІ: Па дакладу проф[эсара] Доўнар-Запольскага — старшыні Гістарычна-археол[ёгічнай] камісіі, аб неабходнасці зрабіць у будынку ІБК Гістарычна-археолёгічнага кутка.

ПАСТАНАВІЛІ: Гэта пытаньне паставіць у бліжэйшым часе на абгаварэньне Прэзідыуму ІБК у сувязі з разьмеркаваньнем пакояў між сэкцыямі і камісіямі.

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 266.

## № 101
## З пратакола пасяджэння Прэзідыума Інстытута беларускай культуры аб перадачы пакоя для бібліятэкі Б. Эпімах-Шыпілы[1] ў кватэры М. Доўнар-Запольскага

**г. Мінск** **17 лістапада 1925 г.**

[…] СЛУХАЛІ: Па дакладу т. Жылуновіча аб кватэры для пра[фесара] Эпімах-Шыпілы, які сваёй бібліотэкай ня можа зьмесціцца ў двох маленькіх пакоях, адведзеных яму ў афіцыне І.Б.К.

ПАСТАНАВІЛІ: Даць праф[есару] Эпімах-Шыпіле адзін пакой для яго бібліотэкі, занятый прафесарам Доўнар-Запольскім. Нагляд за выкананнем гэтага ўзлажыць на Навуковага Сэкратара ІБК т. Дылу (прынята 3 галасамі пры 2 устрымаўшыхся). […]

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 288.

---

[1] **Эпімах-Шіпіла Браніслаў Ігнатавіч** (1859—1934), дзеяч беларускай культуры, выдавец і філолаг. Працаваў у бібліятэцы і выкладаў у Пецярбургскім універсітэце. У 1925 г. пераехаў у Мінск, працаваў у Інбелкульце. Арыштаваны органамі НКУС і зняволены ў 1930 г., пасля вызвалення высланы з Беларусі, памёр у Ленінградзе.

## № 102
## Запіска М. Доўнар-Запольскага ў Народны камісарыят асветы БССР аб неабходнасці выдання гістарычных крыніц

**г. Мінск** **19 лістапада 1925 г.**

Методычному камітэту наркамасьветы БССР

Гісторычна-археолёгічная камісія ІБК прыйшла да вываду, што адсутнасць у студэнтаў БДУ пад рукамі ў патрэбным ліку крыніц зусім спыняе магчымасць вясьці заняткі ў універсітэце. А таму зазначаная камісія ў складзе яе сяброў: проф[эсара] Доўнар-Запольскага М., проф[эсара] Пічэты У[1]., Друшчыца В., Краскоўскага І., Даўгялы З., на сваіх пасяджаньнях 24 кастрычніка і 4 лістапада г. г. (прат. №№ 9 і 13) апрацавала плян выданьня ў друку асобнымі маленькімі сшыткамі (2—3 друкав[аныя] аркушы кожны), якія былі б па цане зусім даступнымі студэнтам, надрукаваць бібліятэчку гістарычных крыніц па гісторыі Беларусі па наступнаму пляну:

1. Выняткі з агульнарускіх летапісаў.
2. Полацкія і Смаленскія гандлёва-эканамічныя ўмовы і граматы XIII—XIV в.
3. Выняткі з беларуска-літоўскіх летапісаў.
4. Мэмуары і хронікі польскія і нямецкія.
5. Констытуцыйныя прывілеі да 1492 году.
6. Вабласныя прывілеі.
7. Акты вуніяў, начынаючы з 1387 г.
8. Прывілеі на вольнасьці XVI в. і Констытуцыі 1566—[15]67 гг.
9. Люблінская Унія 1569 г.
10. Констытуцыя пасьля 1569 г.
11. Майдэбургскія прывілеі.
12. Цэхавыя ўставы.
13. Уставы валасьцям і дварам.
14. Матар’ялы па гісторыі царкоўных брацтваў (галоўным чынам з боку асьветы) і палемічнай літаратуры.

Пакуль што намечаны выпускі:

1 — пад рэдакцыяй І. І. Краскоўскага,
2-гі — пад рэдакцыяй В. Д. Друшчыца,
3-ці — пад рэдакцыяй З. І. Даўгялы,
5-ты — пад рэдакцыяй М. Доўнар-Запольскага,
і 12-ты — пад рэдакцыяй У. І. Пічэты.

Рэдагаваньне іншых сшыткаў будзе падзелена з працягам часу.

Вышэй вызначаны плян покуль што ня поўны дзеля таго, што ў ім ня змешчаны матар’ялы па гісторыі асьветы і хронікі і мэмуары.

Мэта гэтага выданьня ў тым, каб даць неабходна патрэбную бібліятэчку крыніц па беларускай гісторыі для студэнта, настаўніка і самавука, даступную па цане, змяшчаючую самыя неабходныя гістарычныя крынічныя веды.

---

[1] **Пічэта Уладзімір Іванавіч** (1878—1947), гісторык, прафесар Маскоўскага ўніверсітэта (1918—1922), кіраваў стварэннем і стаў першым рэктарам Беларускага ўніверсітэта, праўдзейны сябар Інбелкульта. Арыштаваны ў 1930 г. у Ленінградзе па «акадэмічнай справе С. Платонава», падчас следства даў паказанні супраць М. Доўнар-Запольскага, сасланы на 5 гадоў. З 1937 г. — супрацоўнік АН СССР.

У кожным сшытку проектуецца зьмесьціць караценькую прадмову фармальнага характару, бо кожны, карыстаючыся матэр'яламі больш ці менш дасканала, сам разьбярэцца у ім, ці атрымае ў гэтым патрэбнае асьвятленьне ад выкладчыка.

Тэкст будзе мець самыя неабходныя толькі кароткія ўвагі, асьвятляючыя цёмныя мейсцы тэксту, а ў канцы маленькі слоўнічак старасьвецкіх беларускіх слоў і выразаў.

Усе помнікі маюць быць надрукованы на тэй мове, на якой яны напісаны (беларускай, старабеларускай, альбо польскай). Тэксты лацінскія будуць надрукованы ў тлумачэньні на мове беларускай. Тлумачэньне прыняў на сябе Б. Г. Эпімах-Шыпіла.

Паведамляючы аб вышэй вызначаным, Гістарычна-археолёгічная камісія ІБК са свайго боку падтрымлівае ідэю гэтага выданьня, лічучы яго тэрмінова неабходным, і просіць аб зацьвярджэньні вызначанага пляну выданьня бібліятэчкі крыніц па гісторыі Беларусі[1].

Старшыня Гістар[ычна]-
архео[лагічнай] камісіі М. Доўнар-Запольскі

Навуковы сэкрэтар камісіі Дзм. Даўгяла

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 6, л. 58.

## № 103
## Запіска М. Доўнар-Запольскага ў Прэзідыум Інбелкульта аб стварэнні камісіі па вывучэнні старога Мінска[2]

**г. Мінск** **21 лістапада 1925 г.**

У Прэзідыум Інбелкульту
Гістар[ычна]-археалёг[ічнае] камісіі

Згодна сваім пастановам ад 28 кастрычніка і 10 лістападу (прат. № 12, п. 3 і № 14. п. 4) Гіст[арычна]-археал[агічная] камісія просіць зацвердзіць пры ёй асобную часовую «падкамісію па выўчэньню старога Менску» (падкамісія па старому Менску) і наступны яе склад, у дадатак к маючымся сябрам Гіст[арычна]-арх[еалагічнай] камісіі:

проф[эсар] С. З. Кацэнбоген[3].

А. М. Паноў[4] — наук[овы] супрац[оўнік] Менск[ага] Дзярж[аўнага] музею[5].

А. А. Сцепуржынскі[6] — загадчык Менскае сямігодкі, гісторык.

---

[1] Выданне не здзейснілася.

[2] Можна меркаваць, што ініцыятыва ўтварэння камісіі належала М. Доўнар-Запольскаму, які меў досвед працы ў «Камісіі па вывучэнню старога Кіева».

[3] **Кацэнбоген Саламон Захаравіч** (1889—1946), юрыст, адзін з заснавальнікаў савецкай сацыялогіі. У 1920—1925 гг. намеснік наркама асветы БССР, супрацоўнік Беларускага ўніверсітэта, правадзейны сябар Інбелкульта, пазней — прафесар Ленінградскага педінстытута, рэктар Саратаўскага ўніверсітэта.

[4] **Паноў Аляксандр Міхайлавіч** (?—1937), іншыя звесткі пакуль не знойдзены.

[5] Маецца на ўвазе *Беларускі дзяржаўны музей*, створаны ў 1923 г. на аснове Мінскага абласнога музея. Сёння — Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

[6] **Сцепуржынскі Аляксандр Аляксандравіч** (?—?), гісторык і краязнаўца. У 1917 г. узначальваў

П. К. Маразевіч[1] — вучоны-архэолёг, член с[ельска]-г[аспадарчай] сэкцыі Госпляну.

і студэнты Дзярж[аўнага] унівэрс[ітэта] Беларусі: Каваленя[2], Улашчык[3] і Шутаў[4].

Старшыня Гістар[ычна]-археол[агічнай] камісіі — М. Доўнар-Запольскі

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 6, л. 87.

## № 104
## Запіска М. Доўнар-Запольскага ў Прэзідыум Інстытута беларускай культуры па пытанні рэстытуцыі беларускіх археалагічных калекцый[5]

**г. Мінск** **25 лістапада 1925 г.**

У Прэзідыум Інбелкульту
Гістор[ычна]-археал[ёгічнае] камісіі ІБК

Прыймаючы пад увагу, што археолёгічныя даследаваньня Беларусі патрабуюць паперад усяго усебаковага азнаямленьня з вынікамі тых прац па даследаваньню курганоў і гарадзішч, якія вяліся ў часы царызма, камісія лічыць неабходным прасіць прэзідыум ІБК звярнуціся праз Наркамасьветы БССР да ЦІКа РСФСР з хадайніцтвам наступнага зместу:

Беларусь імкнецца, як мага, да вывучэньня сваёй мінуўшчыны. Між тым, усе каштоўныя археолёгічныя скарбы знаходзяцца ў музеях Масквы і Ленінграда. Быўшыя

---

Беларускі настаўніцкі саюз, у 1919 г. — сябар Мінскага таварыства гісторыі старажытнасці пры Мінскім педагагічным інстытуце. У 1921 г. — дырэктар Мінскага педтэхнікума, з 1924 г. — супрацоўнік Цэнтральнага бюро краязнаўства.

[1] Іншых звестак пакуль не знойдзена.

[2] **Каваленя Аляксандр Дзмітрыевіч** (1895—1937), беларускі археолаг, адзін з заснавальнікаў беларускай археалогіі. У 1920-я гг. — студэнт БДУ і супрацоўнік Інбелкульта. З 1932 г. — навуковы супрацоўнік секцыі археалогіі Інстытута гісторыі БелАН. Арыштаваны ў 1937 г., расстраляны ў Мінску.

[3] **Улашчык Мікалай Мікалаевіч** (1906—1986), беларускі гісторык, археограф, этнограф, краязнаўца, літаратар. Доктар гістарычных навук, працаваў у Маскоўскім універсітэце, Інстытуце гісторыі АН СССР. Аўтар даследаванняў па гісторыі ВКЛ, па праблемах летапісання, крыніцазнаўства і археаграфіі. У студэнцкія гады слухаў лекцыі М. Доўнар-Запольскага ў БДУ (гл. раздз. «Мемуары»). Арыштаваны ў 1930 г., высланы на 5 год, пасля вызвалення было забаронена працаваць у Беларусі.

[4] **Шутаў Сяргей Сяргеевіч** (1906—1972), беларускі краязнаўца, у 1920-я гг. — студэнт медыцынскага факультэта БДУ.

[5] Упершыню праблема рэстытуцыі беларускіх культурных каштоўнасцей была ўзнята на Першай Усебеларускай канферэнцыі архівістаў у маі 1924 г. яшчэ да прыезду ў Беларусь М. Доўнар-Запольскага. Пасля падпісання Рыжскага мірнага дагавора (18.03.1921) абмяркоўвалася перспектыва размеркавання архіваў паміж Савецкай Расіяй, з аднаго боку, і Польшчай, Літвой і Латвіяй — з другога. У запісцы М. Доўнар-Запольскім упершыню пастаўлена задача рэстытуцыі археалагічных каштоўнасцей. На Першым з’ездзе даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі ў студзені 1926 г. ён таксама выступіў з дакладам «Старыя беларускія архівы па-за межамі БССР», па якім з’езд прыняў рэзалюцыю аб вяртанні беларускіх архіўных, музейных і кніжных каштоўнасцей, якая здзяйснялася ўжо пасля ад’езду вучонага з Мінска. Другая канферэнцыя архіўных работнікаў (1927) канстатавала вяртанне часткі архіваў з Масквы, Ленінграда, Смаленска, Ульянаўска, Тулы, Разані, Уладзіміра, Растова-на-Доне.

пры цары Навуковыя Археолёгічныя установы рабілі ад сваёго імя археолёгічныя даследаваньня на Беларусі і ўсе знаходкі, амаль што без астачы, увозілі ў Ленінград (у музеі Эрмітажа, Аляксандра III, Археолёгічнай камісіі), ці ў Маскву (б[ылы] Румянцаўскі ці Гістарычны музей)[1]. У некаторых установах беларускія археолёгічныя знаходкі ня толькі не спарадкаваныя і ня пушчаны ў навуковы абарот, але дагэтуль стаяць у скрынях, і ня ведама, калі іх магчыма будзе убачыць. Так сама ва ўсіх музеях ёсць шмат дуплетаў, якія не патрэбны для суцэльнасці кожнай такой калекцыі.

Акрамя гэтага, у час апошняй вайны ў Маскву былі эвакуіраваны археолёгічныя коллекцыі з Беларусі, напрыклад, з Вільны, з Гомля[2].

З погляду на вышейзгаданае, мы просім:

1) Звярнуць у БССР з музеяў Масквы і Ленінграда беларускія археолёгічныя коллекцыі, якія да гэтага знаходзяцца на сховах, у падвалах і скрынях, не прыведзены ў належны парадак.

2) Даць у БССР назаўсёды дуплеты тых <…> з археолёгічных матэрыялаў, якія знаходзяцца не толькі ў Ленінградзе і Маскве, але і ў Смаленску і др. гарадах, і належаць да раскопак у Беларусі.

3) Даць БССР тыя археолёгічныя рэчы, адсутнасць якіх не парушае суцэльнасці музейнай калекцыі, як выпадковые платы, матар'ялы, яшчэ не апублікаваныя, і інш.

4) Дазволіць зрабіць здымкі з тых музейных беларускіх рэчаў, якія нельга прывязці.

5) Звярнуць тыя рэчы, экія эвакуіраваны ў Маскву з Беларусі.

Старшыня Гіс[торычна]-рх[еалёгічнае] камісіі Доўнар-Запольскі

Навуковы сэкрэтар Дзм. Даўгяла

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 6, л. 80.

---

[1] *Імператарская археалагічная камісія* была створана ў 1859 г. як дзяржаўная ўстанова па кіраванні археалагічнымі росшукамі. Яна з'яўлялася адным з вядучых захавальнікаў археалагічных калекцый, сабраных на тэрыторыі Расійскай імперыі. *Румянцаўскі музей* — адзін з найбольш значных у Расіі збораў кніг, манет, рукапісаў ды і інш. этнаграфічных і гістарычных матэрыялаў. Узнік на аснове калекцыі канцлера М. П. Румянцава. Значная частка калекцыі, у першую чаргу рукапісных і старадрукаваных кніг, была сабрана ў Беларусі ў той час, калі Румянцаў жыў у Гомельскім маёнтку. *Рускі музей Імператара* Аляксандра III заснаваны ў 1895 г. Сёння — гэта Дзяржаўны Рускі музей. *Імператарскі Расійскі гістарычны музей імя Імператара Аляксандра III*, які стаў асновай Дзяржаўнага гістарычнага музея, адчынены ў 1872 г. Беларускія калекцыі папаўнялі ўсе гэтыя сховішчы. Сюды былі адпраўлены археалагічныя матэрыялы раскопак, праведзеных на тэрыторыі Беларусі М. Авенарыусам, Э. Вольтэрам, У. Завітневічам, Е. Раманавым, Л. Шапялевічам, інш. Шматлікія манетныя і рэчавыя скарбы і іншыя артэфакты адпраўлялі губернскія статыстычныя камітэты. Частка манетных знаходак і сліткаў была проста пераплаўлена Манетным дваром. Наступная спроба рэстытуцыі нацыянальных культурных каштоўнасцей распачалася толькі ў канцы 1980-х гг., калі была ўтворана Камісія «Вяртанне» Беларускага фонду культуры.

[2] Маецца на ўвазе эвакуацыя ў 1915 г. у Маскву Віленскага музея старажытнасцей, створанага братамі Тышкевічамі. Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы, згодна з IX арт. аб абмене культурнымі каштоўнасцямі паміж Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай — з другога, калекцыі музея, за выключэннем археалагічных, былі вернуты Літве. У сакавіку 1919 г. камісія эмісара Музейнага аддзела Наркампроса савецкай Расіі В. Пашуканіса вывезла з Гомеля ў Маскву асноўную мастацкую калекцыю князей Паскевічаў.

## № 105
## Хадайніцтва адміністрацыі БДУ ў Галоўнае ўпраўленне прафесійнай асветы БССР аб паездцы М. Доўнар-Запольскага на IV з’езд польскіх гісторыкаў

**Мінск** **канец лістапада 1925 г.**

Вельмі тэрмінова

У Галоўпрафасьветы Беларусі

Пастановай Праўленьня Беларускага Дзяржаўнага Унiвэрсітэта ад 25 лістапада праф[есар] Даўнар-Запольскі прызначаецца, у іншых, прадстаўніком ад унівэрсітэту на IV з’езд польскіх гісторыкаў.

З прычыны таго, што праф[есар] Доўнар-Запольскі таксама адначасова працуе ў Дзяржплане, Праўленьне БДУ просіць узбудзіць хадайніцтва перад Дзяржпланам аб прадстаўленьні яму магчымасьці паездкі на з’езд польскіх гісторыкаў[1].

Рэктар Б. Д.У. — Пічета

Кіраўнік Спраў — Серко

Ст[аршы] дзелавод <…>

НАРБ. Ф. 205, воп. 3, спр. 2549, л. 5.

## № 106
## З пратакола пасяджэння Прэзідыума Інстытута беларускай культуры аб невыкананні пастановы пра выдзяленне пакоя для бібліятэкі Б. Эпімах-Шыпілы ў кватэры М. Доўнар-Запольскага

**Мінск** **28 снежня 1925 г.**

СЛУХАЛІ: Аб кватэры прафесара Эпімах-Шыпілы, якому да гэтага часу не перададзены, згодна пастановы ад 17. 11. 1925 г. Пасля тлумачэння па гэтаму пытанню навуковага сэкрэтара Дылы, які адзначае, што для бібліятэкі Эпімах-Шыпілы прышлося выбудовываць асобны пакой, член Прэзідыума т. Жылуновіч просіць занесці ў пратакол яго пратэст з прычыны невыканання да гэтай пары пастановы Прэзідыума аб перадачы аднаго пакою, займаемага прафесарам Доўнар-Запольскім, прафесару Эпімах-Шыпіле.

ПАСТАНАВІЛІ: Пытанне пакінуць адчыненым да пасяджэння поўнага складу Прэзідыума ІБК.

ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 9, л. 308.

[1] Паездка М. Доўнар-Запольскага не адбылася.

## № 107
## З публікацыі газеты «Савецкая Беларусь»[1] аб удзеле М. Доўнар-Запольскага ў працы камісіі Першага з'езда археолагаў і археографаў БССР дзеля прывітання старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова[2]

**г. Мінск** **19 студзеня 1926 г.**

Першы зьезд археолёгаў і археографаў БССР[3]

Па прапанове Прэзідыуму Інбелкульту зьезд аднагалосна ўхваліў прывітаць старшыню ЦВК БССР т. Чарвякова з пяцігодьдзем яго працы па адбудаваньню БССР; для перадачы прывітальнага лісту, змест якога пададзены ніжэй[4], абрана камісія ў складзе прафэсара Доўнар-Запольскага, Яз. Дылы[5] і Яз. Васілеўскага[6].

## № 108
## З публікацыі часопіса «Полымя» аб удзеле М. Доўнар-Запольскага ў нарадзе па пытаннях археалогіі і археаграфіі ў Інстытуце беларускай культуры

**г. Мінск** **студзень 1926 г.**

З 16 па 18 студзеня адбылася нарада ў Інстытуце Беларускай культуры па пытаннях археолёгіі і археографіі. Заслуханы даклад Доўнар-Запольскага і намесніка загадчыка Цэнтрахіву БССР[7] Мялешкі «Аб беларускіх археолёгічных фондах», Даўгялы аб Літоўскай Метрыцы.

Нарада прызнала, каб Літоўская метрыка захоўвалася за БССР як беларускі гісторычны акт.

«Полымя», 1926 г., № 1, с. 189.

---

[1] *«Савецкая Беларусь»* — штодзённая грамадска-палітычная газета, орган ЦК Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі. Выходзіла на беларускай мове ў Смаленску, затым у Мінску.

[2] **Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч** (1892—1937), беларускі савецкі палітычны дзеяч, першы Старшыня ЦВК БССР (1920—1937), член ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б у 1924—1937 гг. З пачаткам кампаніі абвінавачванняў у антыпартыйнай дзейнасці скончыў жыццё самагубствам.

[3] *Першы зьезд археолагаў і археографаў БССР* адбыўся ў Мінску ў студзені 1926 г., адным з ініцыятараў і кіраўніком з'езда быў М. Доўнар-Запольскі, які выступіў з дакладам «Старыя беларускія архівы па-за межамі БССР».

[4] Дакумент не друкуецца.

[5] **Дыла Іосіф (Язэп) Лявонавіч** (1880—1973), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч, з сакавіка 1923 па лістапад 1924 г. — старшыня Дзяржпалана БССР, у 1924—1926 гг. — сакратар Інбелкульта. Арыштоўваўся органамі НКУС у 1930 і 1938 гг., адбыў 5 год высылкі.

[6] **Васілеўскі Язэп** (?—?) звесткі пакуль не знойдзены.

[7] *Цэнтрархіў БССР*, створаны ў 1919 г. пры Народным камісарыяце асветы БССР, з 1922 па 1927 г. знаходзіўся ў падпарадкаванні ЦВК БССР.

## № 109
## Рашэнне закрытага пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б пра забарону выдання «Истории Белоруссии» М. Доўнар-Запольскага

**г. Мінск** **28 студзеня 1926 г.**

Протокол № 10
закрытого заседания Бюро ЦК КП(б)Б от 28 января 1926 г.

[…] СЛУШАЛИ: О книге Довнар-Запольского.

ПОСТАНОВИЛИ:

1. Признать, что книгу Довнар-Запольского издавать нельзя, как выражающую позицию белорусского национального демократизма и в корне искажающую историю Белоруссии.

2. Рукопись взять в собственность Белгиза, юридически оформив, передать на хранение в Бюро Секретариата, тов. Кавцевичу[1] поручить принять от тов. Сербента[2] рукопись для использования в порядке секретного материала в установленном порядке, размножив, разослать членам и кандидатам Бюро, председателю ЦКК.

Считать необходимым подвергнуть широкой критике книгу Довнар-Запольского в целях развертывания идеологической борьбы против национального демократизма.

Поручить тов. Сербента внести предложения по этому вопросу на следующее заседание Бюро 4 февраля. […]

НАРБ. Ф. 4, воп. 3, спр. 10, л. 46.

## № 110
## Рашэнне закрытага пасяджэння Бюро ЦК Кампартыі Беларусі аб разгортванні крытыкі «Истории Белоруссии» М. Доўнар-Запольскага

**Мінск** **4 лютага 1926 г.**

[…] СЛУШАЛИ: О комиссии вокруг «теории» Довнор-Запольского.

ПОСТАНОВИЛИ:

1. Поручить тов. Сербента написать в газеты серии статей в течение двух месяцев для систематического опровержения белорусского национал-демократизма по книге Довнор-Запольского.

2. В течение ближайших 2-х месяцев обязать тт. Червякова, Адамовича[3],

---

[1] **Каўцэвіч Міхаіл Дзмітрыевіч** (1899—1937), электратэхнік, кандыдат тэхнічных навук. Скончыў Пражскі электрамеханічны інстытут, аспірантуру, пераехаў у Мінск. У 1930-я гг. — супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН, член Бюро палітэмігрантаў пры ЦК МОПР пры ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам. Арыштаваны ў 1937 г., расстраляны.

[2] **Сербента Віталь Андрэевіч** (1895—1980), савецкі гісторык і філасаф, акадэмік БелАН, у 1925—1927 гг. — намеснік загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б, з 1929 г. — дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. Арганізатар і кіраўнік Таварыства гісторыкаў-марксістаў Беларусі. Арыштаваны ў 1937 г. у Маскве, высланы. У 1957 г. вярнуўся ў БССР, загадваў сектарам гісторыі філасофіі Інстытута філасофіі і права БелАН. Знаёмства М. Доўнар-Запольскага і В. Сербенты магло адбыцца ў Харкаве, дзе ў 1920—1922 гг. В. Сербента кіраваў аддзелам друку губкома КП(б)У, а М. Доўнар-Запольскі працаваў у Інстытуце народнай адукацыі.

[3] **Адамовіч Аляксандр Фаміч** (1897—1937), беларускі савецкі палітычны дзеяч, у 1926 г. — загадчык аддзела друку ЦК КП(б)Б, пазней намеснік наркама земляробства БССР. Арыштоўваўся ў 1930 і 1935 гг., высланы. Ізноў арыштаваны ў 1937 г., расстраляны.

Чарота[1], Гессена[2] и Оршанского[3] поместить в газетах статьи на темы по личному выбору из книги Довнор-Запольского, согласовав с тов. Сербента, для опровержения. […]

НАРБ. Ф. 4, воп. 3, спр. 13, л. 78.

## № 111
## З рэцэнзіі В. Сербенты на кнігу М. Доўнар-Запольскага «История Белоруссии»

**Мінск** **6 лютага 1926 г.**

О рукописи книги
Довнар-Запольского «История Белоруссии»

Установка и основная линия книги — доказать, что:

Белорусское крестьянство в течение последнего столетия, в особенности после польского восстания 1863 г. и проведения реформы, неуклонно экономически крепло, забрав в свои руки ко времени революции 1917 г. значительную часть помещичьих земель;

в экономике страны преобладающую роль и вес имели к 1917 г. уже не помещики, а крестьянство;

царское правительство, начиная с Николая I и Муравьёва[4], которого несправедливо называют вешателем, содействовало переходу земли от польских помещиков к белорусским крестьянам;

образовалось несоответствие между экономической мощью крестьянства Белоруссии и политической властью помещиков;

революция 1917 г. устранила это несоответствие;

воля широких крестьянских масс была направлена к созданию белорусской национальной государственности — белорусский конгресс 1917 г. и Рада была выразительницей и «по справедливости считала себя носительницей белорусской идеи и оберегательницей прав национальности и территории» (стр. рукописи 603), и «ее эпоха навсегда останется отражением национальных стремлений значительного большинства белорусских организаций, — стремлений и чаяний, какими они были охвачены в момент освобождения» (стр. 607);

рабочий класс и промышленность в экономике Белоруссии никогда не играли сколько-нибудь значительной роли;

благодаря ряду исторических событий укрепить власть Рада не смогла, зато при содействии Советской России власть досталась пролетариату, экономически и численно не имеющему преобладания в Белоруссии;

большевики, проводя нац. политику, учли вес Рады и взялись своими руками выполнять то, что должна была делать Рада;

---

[1] **Чарот Міхась (Кудзелька Міхаіл Сымонавіч)** (1896—1937), беларускі пісьменнік, у 1926 г. — галоўны рэдактар газеты «Савецкая Беларусь». Арыштаваны ў 1937 г., расстраляны ў Мінску.

[2] **Гесэн С.** (?—?), беларускі партыйны і савецкі дзеяч. У 1926 г. — загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б.

[3] **Аршанскі Барыс Міхайлавіч** (1884—1945), яўрэйскі савецкі літаратар, загадчык яўрэйскага аддзела Інбелкульта, рэдактар газеты «Октябер» на ідышы.

[4] **Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч** (1796—1866), граф, расійскі дзяржаўны дзеяч, віленскі генерал-губернатар. За жорсткасць у падаўленні паўстання 1863 г. увайшоў у гісторыю як *«вешальнік»*.

несмотря на временное пребывание у власти пролетариата, по всему ходу истории дело клонится к тому, чтобы экономически и численно преобладающее крестьянство, также и политически, имело бы в своих руках всю полноту власти, более того:

нужно лишь формально оформить фактически «по праву» находящуюся власть в руках национального белорусского крестьянства. (Это сформулировано достаточно четко в 19 главе).

Следовательно — представленный к напечатанью труд праф[есара] Довнар-Запольского является более или менее последовательно оформленной и обоснованной экономическим фактором точкой зрения национал-демократизма, во-первых, и, во-вторых, судя по цитатам, приводимым ниже, ложным освещением исторических фактов и своего рода издевательством над практическим проведением диктатуры пролетариата и советской властью […]

Нельзя дать возможность белорусскому национал-демократизму получить идеологическое оформление. Книгу нельзя разрешить к напечатанью.

В. Сербента

М. В. Доўнар-Запольскі. Гісторыя Беларусі. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя. 1994 г., с. 497—498, 506.

## № 112
## З пратакола закрытага пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б аб высылцы М. Доўнар-Запольскага

**г. Мінск** **2 красавіка 1926 г.**

Протокол № 24.

Закрытого заседания Бюро Ц. К. К.П.(б)Б от 2 апреля 1926 г.

[…] СЛУШАЛИ:

7. О профессоре Довнар-Запольском (тов. Балицкий)

ПОСТАНОВИЛИ: 1. Признать, что профессор Довнар-Запольский должен выехать из пределов БССР не позже 1-го июня 1926 г. 2. Библиотеку Довнар-Запольского поручить тов. Балицкому закупить в советском порядке[1] […]

Секретарь ЦК КП(б)Б. А. Криницкий[2]

НАРБ. Ф. 4, воп. 3, спр. 17, л. 1, 2.

---

[1] Для прыняцця і праверкі бібліятэкі М. Доўнар-Запольскага была створана спецыяльная камісія. Лёс бібліятэкі патрабуе вывучэння, яе масіў быў падзелены паміж рознымі кнігазборамі Мінска, аб чым сведчаць росшукі ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

[2] **Крыніцкі Аляксандр Іванавіч** (1894—1937), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1925 г. — першы сакратар ЦК КП(б)Б. Адзін з арганізатараў палітыкі беларусізацыі. У той жа час у сакавіку 1926 г. з яго ініцыятывы была прынята пастанова ЦК КП(б)Б «Аб рабоце сярод інтэлігенцыі» і пачаліся «чысткі» беларускай інтэлігенцыі, прадстаўнікоў якой па палітычных матывах адхілялі ад займаемых пасад. У 1927 г. пакінуў БССР. Арыштаваны органамі НКУС у 1937 г., расстраляны ў Мінску.

